ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№47 (2553)**

**20 лістапада 1997 г.**
**Выдаецца з 1955 г.**
**Цана 1 000 рублёў.**

## КАЛАСАВІНЫ



**Кветкі да помніка Якубу Коласу ў Мікалаеўшчыне.**
**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 6-й стар.).*

## З МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ IOV

# ФАЛЬКЛОР У НАСТУПНЫМ ТЫСЯЧАГОДДЗІ

Сёння, на парозе XXI стагоддзя, з асаблівай вастрынёй паўстаюць пытанні: якім будзе гэтае стагоддзе, якім стане будучае грамадства, якімі будзем мы? Якія ідэі, каштоўнасці стануць галоўнымі? Ці не стане наша грамадства, дзякуючы магутнаму развіццю тэхнічнай цывілізацыі грамадствам прымітыўных, збяднелых духоўна тэхнакратаў, якія не ведаюць і не разумеюць уласнай культуры, яе гуманістычных ідэалаў, эстэтыкі, каштоўнасці. Бо тыя працэсы, якія захапілі ўвесь свет, бязлітасна ўцягваюць у сучасныя цывілізатарскія змены ўсе слаі грамадства і, нагул, усе народы. Тут і такія дэструктыўныя з'явы, як атамныя выбухі і катастрофы, моцнае забруджванне навакольнага асяроддзя, якое вядзе да экалагічных катаклізмаў. Парушэнні натуральнай структуры, раўнавагі і чысціні прыроднага асяроддзя сталі цяжкай хваробай сучаснай цывілізацыі, небяспекай нават для фізічнага існавання нашага і будучага пакаленняў. Знішчаючы натуральнае асяроддзе, мы знішчаем і базу, з якой узрасла народная культура. Калі няма сонца, чыстага паветра і празрыстай вады, не можа быць і паўнацэннага, здаровага чалавека — носьбіта народнай культуры. Пытанне экалогіі культуры і шмат іншых актуальных пытанняў абмяркоўваліся на прайшоўшай нядаўна ў Мінску на базе Рэспубліканскага спартыўнага комплексу Раўбічы VI Еўрапейскай канферэнцыі Міжнароднай арганізацыі па народнай творчасці IOV "Народная куль-

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

Нацыянальная бібліятэка Беларусі была ўтворана 15 верасня 1922 года на базе бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта і называлася Беларуская дзяржаўная і універсітэцкая бібліятэка, а з 1926 года яе пераўтварылі ў самастойную Беларускую дзяржаўную бібліятэку.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ — 75 ГОД

# ЗАХАВАЛЬНІЦА ПАМЯЦІ БЕЛАРУСІ

Збіральнікам і першым дырэктарам бібліятэкі, які ўзначальваў яе на працягу 40 гадоў, быў Іосіф Сіманоўскі. Ён меў шырокую эрудыцыю і бліскучую еўрапейскую адукацыю (вучыўся літаратуразнаўству ў Сарбоне і Бёрнскім універсітэце), быў знаўцам кнігі і надзелены паэтычным талентам. Дзякуючы яго намаганням, былі сабраны вялізныя кніжныя фонды і створаны спрыяльныя ўмовы для развіцця бібліятэчнай справы ў Беларусі. На працягу 1926—1933 гадоў бібліятэка адкрыла свае філіялы ў Віцебску, Магілёве, Гомелі, а ў 1934 годзе — у Мінску пры Доме ўрада (цяпер гэта абласная і прэзідэнцкая бібліятэкі). Да 1941 года ў бібліятэцы захоўвалася звыш 2-х мільёнаў тамоў, з якіх да вызвалення Мінска 3 ліпеня 1944 года ацалела толькі 321 тысяча. На працягу 1944—1945 гадоў у бібліятэку вярнулі ўсяго 600 тысяч выданняў з ліку вывезеных у Германію, Польшчу, Чэхаславакію і Венгрыю. У 1948 годзе фонды бібліятэкі дасягнулі даваеннага ўзроўню, але шматлікія прабелы ў каштоўных калекцыях засталіся і па сённяшні дзень.

Цяпер у фондах бібліятэкі захоўваюцца каля 7,5 мільёна адзінак, ад пергаментаў да аптычных дыскаў. Сярод іх ноты, карты, выяўленчыя матэрыялы, аўдыёвізуальныя дакументы, дысертацыі, аўтарэфераты і мікрафільмы дысертацый, CD—ROM і інш., у тым ліку 500-тысячны фонд нацыянальных выданняў і беларусікі, а таксама 60-тысячны збор рукапісаў, рэдкіх кніг і старадрукаў XIV—XX стагоддзяў на славянскіх, заходнееўрапейскіх і ўсходніх мовах, больш за 1 мільён замежных дакументаў.

З 1956 года бібліятэка з'яўляецца дэпазітарыем матэрыялаў ААН і ЮНЕСКА. З 1992 года яна перайменавана ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі і, з'яўляючыся галоўнай бібліятэкай рэспублікі, задавальняе універсальныя інфармацыйныя запатрабаванні ўсяго грамадства. Цяпер бібліятэка — гэта цэнтр па збіранню і захоўванню нацыянальнага дакумента і беларусікі, універсальны дэпазітарый, навукова-даследчы і каардынацыйны цэнтр бібліятэказнаўства, бібліяграфазнаўства, кнігазнаўства. Новы этап яе развіцця пачаўся з укараненнем камп'ютэрызацыі і асваення сучасных інфармацыйных тэхналогій. З 1993 года тут дзейнічае электронны каталог, ствараюцца рэтраспектыўныя базы даных (БД) па ўсіх напрамках дзейнасці НББ.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## ФОТАРЭПАРТАЖ З БЯРОЗАЎКІ

# ШКЛЯНЫ ЦУД



Даўнавата не быў я ў Бярозаўцы. А змен тут адбылося за гэты час шмат. Прыемна бачыць рабочы пасёлак сярод лесу, непадалёку ад срэбразвоннага Нёмана, а галоўнае — абноўлены, фактычна новы шклозавод "Нёман" — вядомае ў свеце прадпрыемства.

Ідзем па яго цэхах, у якіх працуе чатыры з паловай тысячы чалавек. Шмат моладзі — хлопцаў і дзяўчат. Нават беглы погляд дае падставу бачыць у іх руплівых працаўнікоў. Вось людзі аднай з асноўных на заводзе прафесій — шкловыдзімальшчыкі. Апускаючы яны доўгія трубкі ў гарачае, распаленае да чырвані варыва, набіраюць у лёгкія больш паветра, дзьмуць — і на канцы трубкі з'яўляецца патрэбнай формы посуд. Іншыя даводзяць яго да ладу — шліфуюць, аздабляюць.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

**ДА ЧЫТАЧОЎ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» Ў БЕЛАРУСІ!**

**Пачалася падпіска на перыядычныя выданні на першую палову 1998 года.**

**На газету "Голас Радзімы" можна падпісацца ва ўсіх паштовых аддзяленнях Беларусі.**

**Індэкс штотыднёвіка "Голас Радзімы" — 63 854.**

**Спадзяемся, што нашы пастаянныя чытачы і прыхільнікі не толькі самі падпішуцца своечасова на "Голас Радзімы", але і параяць іншым зрабіць гэта.**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

МІНСКАЕ МЕТРО





Апоўдні 7 лістапада адбылася ўрачыстая здача ў эксплуатацыю новага 3,5-кіламетровага ўчастка другой лініі Мінскага метро і станцый "Аўтазаводская" і "Партызанская". Цяпер метро беларускай сталіцы налічвае 19 станцый, 25 кіламетраў падземных магістраляў, 37 спецыяльных цягнікоў, якія з цягам часу выйдуць на паверхню — працяг існуючых ліній мяркуецца рабіць над зямлёй. Мінскае метро абслугоўвае адну трэць пасажырапатоку беларускай сталіцы, больш як 520 тысяч пасажыраў штодзённа.

Асноўныя ўрачыстасці прайшлі на станцыі "Аўтазаводская".

Прэзідэнт А. Лукашэнка, які прыняў удзел ва ўрачыстасцях з нагоды адкрыцця новых станцый і 20-годдзя пачатку будаўніцтва сталічнага метро, пуск новай лініі назваў "сведчаннем аздараўлення нашай эканомікі".

НА ЗДЫМКУ: адкрыццё новых станцый.

80-я ГАДАВІНА КАСТРЫЧНІКА



У Мінску сёлета з размахам прайшло аднойленае свята — Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. 7 лістапада па былым Ленінскім, а цяпер праспекце Францішка Скарыны прайшлі каля 7 тысяч дэманстрантаў. На Кастрычніцкай плошчы сталіцы адбыўся канцэрт і народныя гулянні.

НА ЗДЫМКУ: дэманстрацыя 7 лістапада ў Мінску.

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 580

**Аб святкаванні 200-годдзя з дня нараджэння паэта Адама Міцкевіча**

1. Арганізаваць у 1997—1998 гадах у Рэспубліцы Беларусь мерапрыемствы, прысвечаныя святкаванню 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін утварыць арганізацыйны камітэт і падрыхтаваць план мерапрыемстваў па святкаванню 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча.

3. Міністэрству фінансаў выдзеліць у 1997—1998 гадах з рэзервавага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Брэсцкаму аблвыканкому 5 мільярдаў рублёў і Гродзенскаму аблвыканкому 30 мільярдаў рублёў для правядзення мерапрыемстваў, звязаных са святкаваннем 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча.

4. Міністэрству культуры забяспечыць у верасні 1998 года:

сумесна з Брэсцкім аблвыканкомам адкрыццё музея-сядзібы Адама Міцкевіча ў вёсцы Завоссе Баранавіцкага раёна;

сумесна з Гродзенскім аблвыканкомам правядзенне міжнароднага свята паэзіі.

5. Гэты Указ увесці ў дзеянне з дня яго падпісання.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
А. ЛУКАШЭНКА.

11 лістапада 1997 г.
г. Мінск.

КРЫМІНАЛ

### ЗАТРЫМАНЫ МІНІСТР І СТАРШЫНЯ

Як паведаміла прэс-служба Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь, 11 лістапада 1997 года супрацоўнікамі праваахоўных органаў затрыманы і змешчаны ў следчы ізалятар Камітэта дзяржаўнай бяспекі міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь Васіль Лявонаў і старшыня праўлення закрытага акцыянернага таварыства аграпрамысловага аб'яднання "Рассвет" Васіль Старавойтаў.

В. Лявонаў затрыманы па падазрэнню ва ўчыненні злачынства, прадугледжанага артыкулам 91 частка 4 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (крадзеж маёмасці ў асабліва буйных памерах), і карупцыі.

В. Старавойтаў затрыманы па падазрэнню ў крадзяжы ў асабліва буйных памерах.

Вядзецца следства, аб ходзе і выніках якога грамадскасць будзе інфармавана, адзначае прэс-служба.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### А. ЛУКАШЭНКА АБЯЦАЕ ЗРАБІЦЬ БОЛЬШ ЖОРСТКАЙ БАРАЦЬБУ З КАРУПЦЫЯЙ У БЕЛАРУСІ

Як паведаміла агенцтва Інтэрфакс, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка назваў чарговым крокам у барацьбе з карупцыяй арышты міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава і старшыні акцыянернага таварыства "Рассвет" Васіля Старавойтава.

А. Лукашэнка падкрэсліў, што "калі не змагацца з карупцыяй, ніякія рэформы не пройдуць". Паводле слоў Прэзідэнта, матэрыялы "па крадзяжы ў асабліва буйных памерах" на цяпер ужо былога міністра сельскай гаспадаркі былі перададзены яму яшчэ 2 тыдні назад, і ён палічыў іх вельмі сур'ёзнымі.

А. Лукашэнка перакананы, што ў Беларусі "няма людзей па-за зонай крытыкі, нават калі яны ходзяць побач з Прэзідэнтам". Паводле яго слоў, "нават калі гэта зрабілі б мае блізкія сваякі, не дай Бог, я нічога б не змог для іх зрабіць: закон для ўсіх аднолькавы". А. Лукашэнка прызнаў, што пасля забойства ў Магілёве начальніка абласной інспекцыі камітэта Дзяржкантролю і яго сябра Яўгена Мікалуцкага барацьба з карупцыяй у Беларусі прыняла больш жорсткія формы.

А. Лукашэнка пры гэтым даў зразумець, што расследаванне дзейнасці АТ "Рассвет", якое раней узначальваў двойчы Герой Сацыялістычнай Працы В. Старавойтаў, было ініцыіравана менавіта загінуўшым Я. Мікалуцкім. А следства па справе аб парушэннях у калгасе "Рассвет" выявіла дачыненне міністра сельскай гаспадаркі да фінансавых махінацый.

ІІ МІЖНАРОДНЫ

### ШЭСЦЬ З ДЗЕВЯЦІ

Адбыўся ІІ Міжнародны конкурс юных піяністаў імя Ірыны Цвятаевай. З дзевяці пераможцаў шэсць юных піяністаў прадстаўляюць беларускае фартэпіяннае мастацтва. Сярод іх: у малодшай групе першая прэмія прысуджана Даніілу Шляенкову, другая — Вользе Сцяжко, дзве трэція — Надзеі Моладавай і Аляксандры Касцючэнка. Амаль усе яны — навучэнцы Рэспубліканскага музычнага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі.

У старэйшай узроставай групе званне лаўрэата і другую прэмію атрымаў дзесяцікласнік таксама Рэспубліканскага каледжа Алег Бабій, трэцюю прэмію — студэнт Маладзечанскага музычнага вучылішча Аляксандр Дзяруга.

Астатнія тры юныя лаўрэаты належаць да ўкраінскай фартэпіяннай школы.

ПРАГНОЗЫ

### СТАБІЛІЗУЕЦЦА ЗДАБЫЧА НАФТЫ

Беларускім нафтавікам удалося запаволіць тэмпы падзення ўзроўню здабычы нафты, якія мелі месца напрыканцы мінулага — пачатку гэтага года.

За 10 месяцаў 1997 года ў рэспубліцы здабыта 1 520 519 тон нафты. Гэта складае 97,9 працэнта да аналагічнага леташняга перыяду, аднак, як сцвярджаюць спецыялісты, зніжэнне ўзроўню нафтаздабычы адбываецца планава, і бліжэйшым часам сітуацыя павінна поўнасцю стабілізавацца. Для гэтага, адзначаюць эксперты, неабходна актывізаваць пошук і распрацоўку новых радовішчаў, а таксама больш эфектыўна выкарыстоўваць ужо адкрытыя.

ЗДАРЭННІ

### ЗАГІНУЛІ ПЯЦЁРА

У аўтамабільнай катастрофе 8 лістапада на трасе Брэст — Мінск у выніку сутыкнення аўтамабіляў "Опель" і "Жыгулі" загінулі пяцёра чалавек.

Чацвёра — супрацоўнікі праваахоўных органаў Брэстчыны: Георгій Ходар — начальнік следчага аддзела па асоба важных справах абласной пракуратуры, Фёдар Казак — намеснік начальніка крымінальнага вышуку УУС, Анатоль Краеўскі — старшы ўпаўнаважаны па асоба важных справах крымінальнага вышуку, Сяргей Чарняўскі — старшы следчы-крыміналіст абласной пракуратуры.

Як стала вядома БелаПАН, яны вярталіся са службовай камандзіроўкі з Баранавіч. На сёмым кіламетры аўтадарогі Брэст — Мінск у аўтамабіль "Жыгулі" на вялікай скорасці ўрэзаўся аўтамабіль "Опель", за рулём якога быў жыхар Мінскай вобласці.

Вінаваты ў трагедыі загінуў на месцы. Аўтамабіль з жыхарамі Брэста ад сутыкнення загарэўся, дзверы заклініла. Пакольк ў "Жыгулях" знаходзілася службовая зброя з боепрыпасамі, выбухі гучалі неадназова.

ДЛЯ ДЗЯТВЫ



Усё лепшае, як і раней, у Магілёве аддаюць дзецям. Па-сапраўднаму сонечны настрой таму ў дзяцей з дзіцячага сада-яслей "Сонейка", якім толькі што працаўнікі завода "Строммашына" падарылі новы будынак.

ПРАПАНОВА

### СТВАРЫЦЬ МІЛІЦЫЮ НОРАВАЎ

Міліцыю нораваў прапанаваў стварыць у Віцебску галоўурач абласнога скурна-венерычнага дыспансера Віктар Спірыдонаў. На яго думку, менавіта яна павінна заняцца барацьбой з прастытуцыяй, якая стала асноўнай прычынай распаўсюджвання сіфілісу і ВІЧ-інфекцыі.

Асабліва хвалюе віцебскіх медыкаў сітуацыя з павелічэннем колькасці падобных хворых у маладзёжным асяроддзі. Сёлета на Віцебшчыне ўжо зафіксавана больш як 1 700 выпадкаў захворвання на сіфіліс, у тым ліку 182 — сярод падлеткаў і 20 — сярод дзяцей.

Сваю прапанову аб стварэнні міліцыі нораваў Віктар Спірыдонаў адрасаваў сесіі Віцебскага абласнога Савета, дэпутатам якога ён з'яўляецца.

СПОРТ



У Галандыі на чэмпіянаце Еўропы па скачках на батуце віцябчанка Галіна Лебедзева стала чэмпіёнкай у індывідуальных скачках. Акрамя таго, яна прывезла дамоў сярэбраны медаль за перамогу ў камандным заліку і бронзавы — у сінхронных скачках.

НА ЗДЫМКУ: чэмпіёнка Еўропы па скачках на батуце Галіна ЛЕБЕДЗЕВА.

ЗНЕШНІ ДОЎГ

### 1 МІЛЬЯРД ДОЛАРАЎ

Знешні дзяржаўны доўг Беларусі на сённяшні дзень — каля 900 мільёнаў долараў ЗША. Мяркуецца, што к канцу наступнага года ён складзе прыкладна адзін мільярд долараў. Доўг узрасце за кошт крэдытаў, якія чакаецца атрымаць па асобных кантрактах з рознымі інвестарамі.

Калектывы Беларускага таварыства "Радзіма" і рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" смуткуюць з прычыны заўчаснай смерці Міхаіла Лук'янавіча ТОНДЗЕЛЯ, галоўнага рэдактара Рэдакцыі праграм для замежных краін Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, і выказваюць спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

## ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКАГА ГІДРАМЕТЦЭНТРА

# НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА

Згодна са статыстыкай, матэрыяльныя страты ў свеце, непасрэдна звязаныя са стыхійнымі бедствамі, за апошнія трыццаць год павялічыліся ў 40 разоў, а колькасць ахвяр прыродных з'яў за апошнія чвэрць стагоддзя склала тры мільёны чалавек.

У гэтым годзе Беларусь, надвор'е якой вельмі нагадвае славуты талерантны нацыянальны характар, адчула на сабе, што такое ўдар стыхіі, і расплацілася чалавечымі жыццямі за непадрыхтаванасць да яго. Размова аб надвор'і з плоскасці свецкай размовы імкліва перарасла ў пытанне жыцця і смерці...



На тэрыторыі Беларусі знаходзіцца пяцьдзесят станцый, сабраныя імі даныя трапляюць у Мінск, потым — у Маскву, адкуль паступаюць у Заходнюю Еўропу. Вынікі, атрыманыя ў еўрапейскіх метэацэнтрах, практычна гэтак жа бесперабойна паступаюць у Мінск.

Акрамя таго, прагноз, які мы чуем па радыё, сіноптыкі складаюць на суткі, на двое і трое. Прагнастычныя матэрыялы з міжнароднага метэацэнтра ў Офенбаху дазваляюць рабіць прадказанне на пяць і сем сутак. Складаюцца і сезонныя прагнозы на шэсць месяцаў, але яны менш дакладныя. Між іншым, прагноз на двое-трое сутак у беларускіх сіноптыкаў спраўджваецца да 90 працэнтаў. Пры тых магчымасцях, якія яны сёння маюць, гэта вельмі нядрэнны паказчык. А магчымасці гэтыя невялікія. У нядаўнім мінулым радыёзандзіраванне праводзілася чатыры разы ў суткі трыма станцыямі — у Мінску, Брэсце і Гомелі. Сёння метэазандзіраванне вядзецца толькі з аднай станцыі адзін раз у суткі — у тры гадзіны ночы з Мінска, бо кошт аднаго радыёзонда — 60 долараў, і грошы гэтыя ў выглядзе шара з апаратурай у літаральным сэнсе беззваротна раствараюцца ў небе. У 1991 годзе сярэдняя колькасць выпускаў радыёзондаў за 10 дзён складала 60, у 1996 — усяго 8. Для параўнання заўважым, што за рубяжом пры ўтварэнні цыклона непасрэдна да яго цэнтра адпраўляецца беспілотны самалёт. Па меры перамяшчэння цыклона ён пастаянна выпускае радыёзонды, якія даюць няспынную інфармацыю аб напрамку, хуткасці ветру і іншых паказчыках, што дазваляюць дакладна прагназаваць яго будучыню. Радыёзандзіраванне з-за недахопу сродкаў скарочана ці зусім не робіцца не толькі ў Беларусі, але і ў іншых рэспубліках СНД, што вельмі сур'ёзна ўплывае на дакладнасць прагнозаў ва ўсім свеце, бо атмасферныя працэсы ў розных пунктах зямлі ўзаемазвязаны паміж сабой самым цесным чынам.

Метэаралагічная тэхніка, як, зрэшты, і любая іншая, імкліва абнаўляецца і мадэрнізуецца. Так, існуюць спецыяльныя радыёлакатары, якія могуць вызначыць колькасць ападкаў практычна на любой плошчы. У Мінску пра такія і не мараць. Ды што там лакатары, не хапае людзей, каб весці кругласутачныя дзяжурствы і сачыць за надвор'ем. У выпадку ўзнікнення штармавога папярэджання ці іншай небяспечнай з'явы сіноптыкі абавязаны паведаміць пра гэта ва ўсе народнагаспадарчыя арганізацыі, якіх у абавязковым спісе каля пяцідзесяці. Гэта значыць, што дзяжурны часам некалькі гадзін запар набірае самыя розныя тэлефонныя нумары, а калі гэта небяспечная прыродная з'ява чакаецца, напрыклад, праз дзве гадзіны, апошняя арганізацыя даведваецца аб ёй якраз пасля таго, як яна скончыцца.

За апошнія гады ў Беларусі давялося скарачаць аграметэапасты, якія вялі назіранні пры калгасах і саўгасах. Іх даныя дазвалялі складваць дакладныя аграпрагнозы, якія выкарыстоўваліся пры вызначэнні пачатку сяўбы, прагназаванні ўраджаю. На метэастанцыях выходзяць са строю датчыкі тэмператур, якія немагчыма замяніць з-за іх высокага кошту, няма датчыкаў ветру, якія сёння выраблюцца толькі за мяжой. Забяспечанасць пастаўкамі прыбораў у 1991 годзе склала 40 працэнтаў, у 1995 годзе гэты паказчык быў роўны нулю. Гэтак жа ідуць справы і сёння. Інфармацыю са спадарожніка ў Мінску прымаюць усяго двойчы ў суткі, што яўна недастаткова, а інфармацыя з геастацыянарнага спадарожніка беларускім метэаролагам і зусім недаступная, бо няма сродкаў на набыццё апаратуры для яе прыёму.

Цікава адзначыць, што ўся інфармацыя, якой абменьваюцца паміж сабой метэаролагі свету, бясплатная, не лічачы ўзносаў у сусветную метэаралагічную арганізацыю. Аднак гэтыя грошы цалкам акупляюцца, бо СМА ўжо неаднаразова бясплатна прадастаўляла беларускім сіноптыкам вынікі радыёзандзіравання і іншую не менш каштоўную інфармацыю. Салідарнасць і дабрачыннасць сіноптыкаў абумоўлена не толькі іх шырокай душой, але і разуменнем таго, што нашы цяжкасці вельмі хутка могуць ператварыцца ў іх праблемы, бо метэаралагічныя працэсы глабальныя, узаемазвязаныя і патрабуюць дакладных ведаў усіх фактараў, што ўплываюць на надвор'е. Менавіта гэта і абумоўлівае тое, што на фоне эканамічных і сяброўскіх сувязей, што рвуцца, адносіны паміж метэаслужбамі краін СНД наладжваюцца і мацнеюць. На сённяшні дзень створаны і добра функцыянуе Камітэт саюза Беларусі і Расіі па гідраметэаралогіі. Масква спраўна пастаўляе Мінску метэаінфармацыю, нядаўна там атрымалі з Амерыкі супер-камп'ютэр "CRAU", які дазволіць стварыць тэхналогіі аператыўных гідраметэаралагічных прагнозаў надвор'я. Заключаны і, галоўнае, дзейнічаюць пагадненні аб узаемным супрацоўніцтве з Украінай, Літвой, Латвіяй, Польшчай.

У што можа выліцца імкненне зэканоміць на метэаслужбе, ярчэй за ўсё паказаў смерч, які прайшоў гэтым летам па Беларусі. Апускаючы вузкаспецыяльныя падрабязнасці, заўважым, што менавіта радыёзандзіраванне, якое не вядзецца ў Брэсце з-за адсутнасці сродкаў, дазволіла б дакладна ўлічыць хуткасць ветру, яго напрамак і своечасова папярэдзіць людзей аб небяспецы. Аб тым, якую важнасць для народнай гаспадаркі ўяўляе дакладны метэапрагноз, гаворыць хаця б той факт, што кожны год сукупная сусветная эканоміка, дзякуючы метэаслужбам, атрымлівае дадатковы прыбытак у памеры 20—40 мільярдаў долараў. Пры гэтым, у залежнасці ад краіны, гэты даход у 5—10 разоў перавышае бюджэты, якія выдзяляюцца ўрадамі для нацыянальнай метэаслужбы.

Апошнія гады сіноптыкам было дазволена заключаць дагаворы з арганізацыямі і камерцыйнымі службамі. У перыяд будаўніцтва гарадкоў для ваенных, якія вярталіся з краін Усходняй Еўропы, для замежных будаўнічых фірм было арганізавана складанне прагнозаў надвор'я ў гарадах, дзе ішло будаўніцтва. Для медыцынскіх устаноў складаюцца прагнозы змянення ціску, месячныя прагнозы надвор'я заказваюць органы Дзяржстраху і Міністэрства лясной гаспадаркі. Але самая вялікая колькасць заказаў тычыцца паліўна-энергетычнай галіны — ад прагнозу надвор'я залежыць час уключэння ацяплення і рэгуліроўка падачы цяпла. Бываюць і больш лакальныя заказы — аўтатранспартныя прадпрыемствы просяць даць кансультацыі аб надвор'і ў Заходняй Еўропе, Прыбалтыцы. Атрыманыя грошы ідуць на пакупку абсталявання і прыбораў.

Складанне прагнозаў — прафесіянальны занятак сіноптыкаў, і кожны дзень, заглядваючы наперад, яны навучыліся прадбачыць і свае ўласныя праблемы. У перспектыве айчыннай метэаслужбы — цяжкасці са спецыялістамі. Большасць вопытных супрацоўнікаў гідраметэацэнтра знаходзяцца на парозе пенсійнага ўзросту, а замяніць іх проста няма каму: у Беларусі сіноптыкаў не рыхтуе ніводная навучальная ўстанова. Санкт-Пецярбург, Адэса і Чарнаўцы, дзе знаходзяцца адпаведныя вышэйшыя навучальныя ўстановы, — цяпер замежжа, вучоба там звязана з пэўнымі цяжкасцямі, а жадаючых ехаць туды з дому на пяць гадоў сёння практычна няма. І можа стацца, што ў хуткім часе беларусам застанецца толькі радавацца, што тарнада, ураганы і смерчы па тэрыторыі нашай краіны пракатваюцца раз у стагоддзе, і ўспамінаць народныя прыкметы, па якіх нашы бабкі вякамі складалі доўгатэрміновыя прагнозы з высокай ступенню верагоднасці.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ГРАМАДСКІ ПАРАДАК

# З «ВОЎЧЫМ БІЛЕТАМ» У СВЕТЛУЮ БУДУЧЫНЮ?

Зразумела, у кожнай цывілізаванай краіне павінны ўладарыць грамадская згода і агульны парадак. Бо нават дзіцяці зразумела: толькі ў падобных умовах эканоміка развіваецца стабільна і рытмічна, а грамадзяне набываюць такое неабходнае ім пачуццё ўпэўненасці і абароненасці. Паклапаціцца ж пра ўсё — абавязак дзяржаўнай улады. Што яна звычайна і робіць, адпаведна ўласным ідэалагічным перакананням і палітычным метадам: у адных выпадках абапіраючыся на трывалую і дакладна вывераную, дэмакратычную заканадаўчую базу, у іншых — на пэўныя асаблівасці нацыянальнай свядомасці і традыцыі, а дзе-нідзе — проста на паліцэйскія дубінкі і жорсткую сістэму пакаранняў. Дарэчы, як паказвае практыка, апошні падыход забяспечвае асабліва вымуштраваны парадак.

Сёння ніхто не спрачаецца: сучасная вытворчасць, як складаны тэхнічна-арганізацыйны механізм патрабуюць моцнай дысцыпліны, з чым апошнім часам у нас сапраўды ўзнікла праблема. Але ж дысцыплінаваны, адказны за свае ўчынкі работнік і запалоханы, бяспраўны працоўны "вінцік" — не адно і тое ж. З першым уселякая ўлада вымушана весці дыялог, размаўляць на роўных, на другога толькі пакрыквае раздражнёна. На жаль, менавіта ноткі апошняга чуюцца ў праекце Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб неадкладных мерах па ўмацаванню працоўнай і выканаўчай дысцыпліны", апублікаванага сёлетняй восенню Камітэтам дзяржаўнага кантролю і Адміністрацыяй Прэзідэнта. Як сведчаць радкі гэтага дакумента, "да падрыхтоўкі і абмеркавання праекта прыцягваліся вышэйшыя дзяржаўныя органы краіны". Атрымліваецца, прапанаваны (цяпер ужо на разгляд працоўных калектываў) праект ёсць агульная пазіцыя нашай цяперашняй вышэйшай улады.

Якую ж рэакцыю выклікаў нарматыўны акт непасрэдна на прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемствах? Ацэнка яго асноўных палажэнняў неадназначная — ад поўнага адабрэння да поўнага непрыняцця. Па даных інфармацыі Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, цалкам падтрымалі прэзідэнцкія ініцыятывы магілёўскае народнае прадпрыемства "АРМС", Магілёўскі металургічны завод, "Магілёўтранс", мінскія тэлевізійныя інфармацыйныя сеткі Мінгарвыканкома, таксама цалкам, але не пагадзіліся — брэсцкі завод "Цветатрон", Пінскі мясакамбінат, Камянецкая райсельгастэхніка, Слонімская мэблевая фабрыка, гродзенскае вытворчае аб'яднанне "Азот", Магілёўскі ліфтабудаўнічы завод, магілёўскі завод "Строммашына", лакаматыўнае дэпо (Мінск) і іншыя. На многіх сходах адзначалася: прыняцце падобнага дакумента было б зразумелым у нейкіх надзвычайных умовах, напрыклад, пры ваенным становішчы або ў час стыхійнага бедства. Сёння ж палітыка "закручвання гаек" не можа прынесці станоўчых вынікаў, тым больш яшчэ далёка не вычарпаны іншыя, "мірныя" метады ўрэгулявання ўзніклых праблем. Падкрэслівалася: дакумент санкцыяніруе сапраўднае процістаўленне кіруючых чыноўнікаў у дзяржаўным апараце і на прадпрыемствах тым, хто непасрэдна працуе пад іх кіраўніцтвам — рабочым, інжынерам, служачым, калгаснікам. Такі падыход прынясе толькі негатыўныя вынікі, выпраўленне якіх затрабуе значна большых сродкаў, чым тая няпэўная карысць, абяцаная грамадству прыняццем дэкрэта. Па звестках, якія паступілі з Мінскага абласнога аб'яднання прафсаюзаў, работнікі юрыдычных службаў прадпрыемстваў, устаноў, што ўдзельнічалі ў абмеркаванні праекта, расцанілі яго нават як дакумент, які супярэчыць Канстытуцыі. На многіх абмеркаваннях людзі гаварылі: аўтары праекта слаба ведаюць рэальную абстаноўку ў працоўных калектывах, чым і як жывуць рабочыя. Адзінае, што заўлена — жаданне запалохаць чалавека, можа, нават паралізаваць яго волю, паставіўшы ў вельмі жорсткія рамкі, калі непазбежна пацерпяць, будуць ушчэмлены ў правах і невінаватыя людзі.

Шмат нараканняў выклікала тое, што адпаведна палажэнню праекта, звальненне работніка па ініцыятыве наймальніка не ўзгадняецца з прафсаюзам, як гэта было дасюль прадугледжана працоўным заканадаўствам Беларусі. Недапушчальным палічылі грамадзяне сістэму штрафаў, перавод на тэрмін да шасці месяцаў на меней аплачваемую работу ці паніжэнне на пасадзе. Апошняе супярэчыць міжнароднай канвенцыі "Аб ліквідацыі прымусовай працы". Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская катэгарычна не пагадзілася з тым, што работнік, звольнены за парушэнне дысцыпліны, не мае права атрымліваць прэмію на новым месцы работы на працягу цэлага года, бо такім чынам уводзіцца сістэма, якая яшчэ да рэвалюцыі 1917-га называлася як "воўчы білет". У той жа час у праекце дэкрэта нічога не гаворыцца пра тое, што невыкананне ці недастатковае выкананне работнікам сваіх абавязкаў можа ад яго і не залежаць (з-за адсутнасці адпаведных умоў працы), і тады гэта ўжо не павінна разглядацца як парушэнне дысцыпліны. Акрамя таго празмерная ўвага да падтрымання правілаў унутранага працоўнага распарадку і меры пакарання за яго парушэнне фактычна адводзяць на другі план прафесійныя якасці, кваліфікаванасць работнікаў. Напрыклад, цяжка патлумачыць, чаму дэкрэт прапануе парушальнікаў дысцыпліны адпраўляць на нечарговую атэстацыю. Калі токар ці слесар мае высокі кваліфікацыйны разрад, то ад таго, што ён спазніўся да свайго станка (у гэтым, канешне, нічога добрага няма), яго майстэрства не зменшыцца.

А вось яшчэ адзін пункт праекта: "Забараніць прысуджэнне і ўручэнне ўзнагарод, выплату прэмій (іншых аналагічных выплат), павышэнне па пасадзе (званні, класе) у адносінах да асоб, якія маюць спагнанне за парушэнне рашэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, законаў, іншых актаў заканадаўства, рашэнняў судоў, правіл унутранага распарадку". І ўсё гэта пажыццёва ці што? Тэрміны ж не ўказаны. Толькі сказана: забаранены! Атрымліваецца: вярнуўся аднойчы з абеду на пяць хвілін пазней, адхапіў у майстра вымову ў загадзе і... прывітанне. Можна ўсё астатняе жыццё працаваць, як добра адладжаны механізм, аднак — ні табе прэмій, ні павышэння па службе. Дэкрэт не дазваляе.

У заключэнні, накіраваным Саветам Федэрацыі прафсаюзаў у Галоўнае дзяржаўна-прававое ўпраўленне Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, гаворыцца: у такім варыянце дэкрэт не можа быць прыняты. І тут паўстае пытанне: а навошта гэты дэкрэт нам увогуле патрэбны? У Беларусі існуе Кодэкс законаў аб працы. Калі ён у нечым недасканалы, адстаў ад рэальных умоў, трэба яго дапрацаваць, палепшыць, для чаго ёсць парламент. Але давайце жыць па законах, прапануюць многія грамадзяне краіны, а не па дэкрэтах. Гэта раіць нам і гістарычны вопыт. Дарэчы, не такі ўжо далёкі.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА: ПОГЛЯД НА МІНУЛАЕ І СУЧАСНАСЦЬ

Пасля вайны пры адсутнасці свабоднага ўезду і выезду за межы СССР дыяспара папаўнялася нязначна. Рэгулярны прыток беларусаў і выхадцаў з Беларусі ў заходнія краіны выявіўся ў канцы 1980-х гадоў. У 1988—1990 гадах з БССР эмігрыравалі больш за 52 тысячы чалавек (Ізраіль, ЗША, Германія і інш.).

У пасляваенны час наглядалася невялікая па памерах рээміграцыя. Пад уплывам перамогі СССР і саюзнікаў у другой сусветнай вайне тысячы эмігрантаў паверылі сталінскай прапагандзе, эміграцкай прэсе савецкай арыентацыі і прынялі грамадзянства СССР. Юрыдычнай падставай стаў Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 14 чэрвеня 1946 года "Аб узнаўленні ў грамадзянстве СССР падданых былой Расійскай імперыі, а таксама асоб, страціўшых савецкае грамадзянства", іншых актаў 1945—1947 гадоў, па якіх беларусы і ўкраінцы з былой Польшчы і літоўцы з даваеннай Літвы атрымалі права на набыццё савецкага грамадзянства. Тысячы выхадцаў з Беларусі прынялі яго, а сотні з іх вярнуліся на радзіму ў 50—60-я гады (з Францыі, Аргенціны толькі ў 1953—1955 гадах прыехалі каля 200 чалавек). Па некаторых звестках, да 1964 года прыбыло 10—15 тысяч аргенцінскіх беларусаў. Але ўжо з пачатку 60-х гадоў пачаўся іх адток у Паўднёвую Амерыку. 40—50 працэнтаў з іх у далейшым з вялікімі цяжкасцямі (улады не ўхвалялі гэтага і стваралі розныя перашкоды) выехалі з-за нязвыклага і непрымальнага ладу жыцця, нізкага жыццёвага ўзроўню, зняверыўшыся ў камуністычных ідэалах і магчымасці абагачэння нацыянальнага жыцця на Бацькаўшчыне ці гістарычнай зямлі сваіх продкаў. "У Аргенціне — пасля звароту масы злашчасных эмігрантаў — беларусы развеяліся, як попел нязбыўнай мары", — пісаў аб уздзеянні гэтага на беларускае грамадства ў краіне адзін з тых, хто прыехаў на Беларусь у тыя гады Карлас Шэрман.

Пасля нялёгкага прыстасавання ў новых краінах большасць беларусаў працавалі рабочымі ў прамысловасці, частка іх абзавялася фермерскімі гаспадаркамі. З цягам часу сацыяльны статус многіх беларусаў памяняўся: павялічылася колькасць інтэлігенцыі, прадстаўнікоў сярэдняга класа — уладальнікаў невялікіх фірм, майстэрняў, іншых прадпрымальнікаў, фермераў. У новым пакаленні беларусаў ЗША (дзеці і ўнукі эмігрантаў) працэнт людзей з вышэйшай адукацыяй больш высокі за сярэднеамерыканскі. У месцах кампактнага рассялення беларусаў з цягам часу павялічыўся іх уплыў на сацыяльна-эканамічныя, палітычныя працэсы гэтых рэгіёнаў (штатаў Каліфорнія, Нью-Джэрсі, Мічыган у ЗША).

Значная частка трэцяй эміграцыйнай хвалі інтэгравалася ў рускія і польскія асяродкі, асімілявалася. Але менавіта яе прадстаўнікі (насуперак штучнай адлучанасці ад Бацькаўшчыны і калі там заахвочваўся і пашыраўся нацыянальны нігілізм) далі прыклады арганізацыі грамадска-культурнага, рэлігійнага жыцця на нацыянальнай аснове, сцвярджэння беларусаў у якасці самастойнай этнічнай супольнасці ў замежжы. Зберажэнню традыцый садзейнічае Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, Беларуская праваслаўная царква ў канстанцінопальскай юрысдыкцыі, Беларуская каталіцкая місія, дзейнасць якіх грунтуецца на нацыянальнай аснове (служба на беларускай мове, рэлігійнае навучанне і выданне рэлігійнай літаратуры і часопісаў для вернікаў на ёй). Існуе больш за 20 праваслаўных прыходаў у Канадзе, ЗША, Вялікабрытаніі, Аўстраліі, беларускія каталіцкія (уніяцкія) місіі ў Чыкага, Лондане, Парыжы.

Сваю жыццяздольнасць праявілі створаныя ў канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў і дзеючыя цяпер Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі (1946 год), Беларуска-амерыканскае задзіночанне (1949 год), Згуртаванне беларусаў у Канадзе (1948 год), Беларускае нацыянальнае аб'яднанне ў Канадзе (1950 год), Беларускае аб'яднанне ў Аўстраліі (1951 год), жаночыя, маладзёжныя і іншыя арганізацыі. Пасля вайны аднавіў працу Беларускі хаўрус у Францыі. Узгодненасці дзеянняў замежных суродзічаў і іх гуртаванню спрыяюць сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі з 1952 года (адбылося 22 сустрэчы) і Аўстраліі (з 1976 года — 12 сустрэч).

Захаванню нацыянальнай свядомасці, пашырэнню звестак пра Беларусь у краінах пасялення спрые перыядычны друк. Па звестках даведнікаў ЗША аб этнічнай прэсе, у 70-я—80-я гады ў гэтай краіне выходзіла 14—15 выданняў на беларускай мове накладам 8—10 тысяч адзінак. Газета "Беларус", якая выходзіць у Нью-Йорку з 1950 года, мае чытачоў-беларусаў у многіх краінах свету, а з 1993 года стала даступнай і на Бацькаўшчыне (размнажае прадпрыемства "Тэхналогія"). Цэнтрамі навукова-культурнага жыцця сталі Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку (з 1951 года, выдае "Запісы" з 1952 года), Вялікалітоўскі фонд імя Л. Сапегі, Фундацыя імя П. Крэчэўскага, Англа-беларускае таварыства (з 1956 года, выдае "The journal of Byelorussia Studis" з 1965 года), Бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане (з 1971 года), Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Таронта, Інстытут беларусаведы ў Ляймене (ФРГ, з 1981 года, выдаваў "Весткі" ў 1981—1985) і Беларускі музей, які адкрыўся тут жа (1983—1996).

Гэтыя высілкі эмігрантаў, іх крытыка таталітарнай сістэмы на Бацькаўшчыне спрыялі зберажэнню традыцый, роднай мовы, ідэалаў незалежнасці і яе сімвалаў, памнажэнню культурных набыткаў, пашыралі веды ў свеце пра Беларусь. Асяроддзе замежных беларусаў вылучыла сваіх паэтаў і празаікаў, кампазітараў і спевакоў, навукоўцаў. Вядомы ў свеце наш суродзіч І. Прыгожын — лаўрэат Нобелеўскай прэміі, знакаміты вучоны ў галіне ракетнай тэхнікі Барыс Кіт, абраны акадэмікам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, членам Амерыканскага астранаўтычнага таварыства, Брытанскага міжнароднага таварыства, дырэктарыяту Нямецкага астранаўтычнага таварыства, прафесарам Мэрылендскага універсітэта (ЗША), узнагароджаны залатым медалём нямецкага таварыства імя Германа Обэрта. У працах У. Сядуры (У. Глыбіннага), А. Адамовіча, С. Станкевіча, І. Любачкі, В. Тумаша, П. Урбана, А. Калубовіча, Я. Запрудніка, Я. Садоўскага, В. Кіпеля, З. Кіпель і іншых асэнсоўваюцца праблемы нацыянальнай гісторыі і культуры. Беларускія песні гучаць у рэпертуары вядомых у замежных краінах спевакоў П. Конюха і М. Стрэчаня. З эміграцкім лёсам звязана значная частка творчай спадчыны знакамітага спевака М. Забэйды-Суміцкага (1900—1981), кампазітараў М. Равенскага (1886—1952) і М. Шчаглова-Куліковіча (1893—1969), паэткі Л. Геніюш (1910—1983). Вядомасць у беларускім замежжы набылі пісьменнікі Н. Арсеннева, М. Сяднёў, А. Салавей, У. Клішэвіч і інш. Беларускія мастакі В. Жаўняровіч, З. Чайкоўскі, У. Шыманец экспанавалі свае карціны на розных выставах у ЗША і Еўропе. Беларуская тэма гучыць у працах такіх мастакоў, як І. Шыманец-Сурвіла, П. Мірановіч, У. Рагалевіч-Дутко, Г. Русак, М. Наўмовіч, Н. Кудасава. У розных штатах ЗША прайшло больш сотні выставаў карцін Т. Стагановіч. Наш суродзіч А. Ахола-Вало (Фінляндыя) вядомы як графік і стваральнік інтэр'ераў грамадскіх будынкаў.

У Польшчы намаганнямі суродзічаў у 50-я гады створаны і дзейнічаюць Беларускае грамадска-культурнае таварыства (з 1956 года), літаратурнае аб'яднанне "Белавежа" (з 1958 года) і інш. Вядомасць не толькі ў асяроддзі беларусаў набылі пісьменнікі С. Яновіч, А. Барскі (Баршчэўскі), В. Швед, Я. Чыквін, мастакі Л. Тарасевіч, М. Давыдзюк, навукоўцы Ю. Туронак, Б. Бялаказовіч, У. Юзвюк, А. і Я. Мірановічы і інш.

Нацыянальна свядомая беларуская эміграцыя на Захадзе неаднародная. У яе асяроддзі назіраецца супрацьстаянне розных груп і плыняў, існуюць два палітычныя цэнтры — Рады БНР і БЦР, якія, аднак, у галоўным ніколі не мелі разыходжанняў: аднолькава не прымалі "сацыялістычны" лад, савецкую ўладу, выступалі за незалежнасць Беларусі. Жыццё беларускага замежжа ў пасляваенныя дзесяцігоддзі несла адбітак усіх праблем, якія вынікаюць з гістарычнага развіцця нацыі і яе сучаснага стану. Аслабленая нацыянальная свядомасць значнай часткі імігрантаў, пэўная раз'яднанасць па палітычнай, канфесійнай прыналежнасці, адсутнасць доўгія дзесяцігоддзі духоўнай і маральнай падтрымкі Бацькаўшчыны паскаралі працэсы асіміляцыі. Менавіта ў адносінах да нацыянальных арганізацый эміграцыі партыйна-дзяржаўным кіраўніцтвам СССР і БССР праводзілася палітыка ізаляцыі ад гістарычнай Радзімы, расколу па ідэалагічных адзнаках розных яе пакаленняў, плыняў, процістаяння т. з. "нацыяналістычных" і "прагрэсіўных" арганізацый суродзічаў. Адпаведныя савецка-партыйныя органы садзейнічалі русіфікацыі за мяжой выхадцаў іншых нацыянальнасцяў з Расіі і СССР, пашырэнню ў іх асяроддзі савецкага ўплыву. Палітызацыя адносін з замежнымі суродзічамі шкодзіла іх нацыянальна-культурнай дзейнасці, а ў Аргенціне прывяла да заняпаду нацыянальных арганізацый даваеннай эміграцыі.

Уладамі ігнараваліся нацыянальна-культурныя патрэбы суродзічаў у іншаэтнічных рэгіёнах Саюза, колькасць якіх па-за тэрыторыяй БССР павялічылася з 17,6 працэнта ў 1959 годзе да 21,2 у 1989. Гэта сталася вынікам партыйна-дзяржаўнай палітыкі стымулявання ўнутрыдзяржаўнай міграцыі (праз вярбоўкі працоўных, грамадскія заклікі на новабудоўлі, планавае размеркаванне выпускнікоў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установаў, перавод спецыялістаў з аднаго рэгіёна ў другі і інш). У выніку распаду СССР, набыцця суверэнітэту былымі рэспублікамі гэтая ўнутрыдзяржаўная міграцыя ператварылася ў міжнародную і ў новых незалежных дзяржавах апынулася больш за 2 мільёны беларусаў.

## СУЧАСНЫ СТАН БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ. НОВАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ ПАЛІТЫКА Ў ДАЧЫНЕННІ ДА ЯЕ

Айчынная статыстыка пакуль не дае падстаў дакладна вызначыць колькасць беларусаў у свеце. На цяперашні час у Рэспубліцы Беларусь іх жыве каля 8 мільёнаў (прыкладна 79 працэнтаў усяго насельніцтва), і мяркуецца, што за яе межамі яшчэ 3—3,5 мільёна (прыводзіцца лічба нават 4 мільёны). Гэта складае амаль што трэцюю частку нацыі.

Сёння беларусы ў свеце найбольш сканцэнтраваны ў суседніх дзяржавах, пры гэтым на памежных з рэспублікай тэрыторыях — на сваіх спрадвечных, гістарычных землях, якія ў выніку барацьбы і палітычных гульняў больш моцных суседзяў былі адарваны ад Беларусі. Найбольш кампактна пражываюць беларусы ў Польшчы (250—400 тысяч), пераважна на сваіх этнічных землях Беласточчыны. На цяперашні час у Расійскай Федэрацыі іх асела больш за 1 мільён 100 тысяч, што складае 0,8 працэнта насельніцтва (у Маскве і вобласці — 129 тысяч, Санкт-Пецярбургу і вобласці — 127 тысяч, Калінінградскай вобласці — 74 тысячы, Карэліі — 55 тысяч, Цюменскай вобласці — 49 тысяч і іншых рэгіёнах). Сярод жыхароў Украіны — больш за 400 тысяч беларусаў (0,9 працэнта насельніцтва), Казахстана — 170 тысяч (1,1 працэнта насельніцтва), Латвіі — амаль 100 (4,5 працэнта), Літвы — 50 тысяч (1,7 працэнта), Эстоніі — 25 тысяч (1,8 працэнта, Узбекістана — 29 тысяч, Малдовы — 20 тысяч. Выявілася ўжо тэндэнцыя вяртання суайчыннікаў на Бацькаўшчыну. У 1992—1995 гадах Беларусь прыняла з новых незалежных дзяржаў 287 тысяч асоб, з якіх амаль 150 тысяч беларусаў. На постсавецкай прасторы цяпер сканцэнтравана пераважная большасць замежных беларусаў. Устойлівыя беларускія асяродкі склаліся на амерыканскім і аўстралійскім кантынентах, шэрагу еўрапейскіх краін. У ЗША беларусы (па неафіцыйных звестках, да 500 тысяч) пасяліліся пераважна ў штатах Нью-Йорк, Нью-Джэрсі, Агаё, Мічыган, Пенсільванія, Ілінойс, Каліфорнія; Канадзе (да 100 тысяч) — у правінцыях Квебек, Антарыё, Саскачаван, Альберта; Аргенціне — правінцыі Буэнас-Айрэс. На аўстралійскім кантыненце найбольш значныя беларускія асяродкі склаліся ў штатах Заходняя Аўстралія (Перт), Паўднёвая Аўстралія (Адэлаіда), Вікторыя (Мельбурн). У Вялікабрытаніі беларусы аселі галоўным чынам у Лондане, Брэдфардзе, Манчэстэры, Нотынгеме, у Францыі — вакол Парыжа, ФРГ — Берліне і каля Мюнхена, Бельгіі — Бруселя, Льежа, Лювена. Існуе невялікая беларуская суполка ў Італіі. У 1991—1995 гадах за межы Рэспублікі Беларусь выехала каля 55 тысяч чалавек у Ізраіль (50 працэнтаў), ЗША (32 працэнты), Германію, Аўстралію, Польшчу, Канаду.

Нацыянальна-культурную і грамадскую дзейнасць ажыццяўляюць шматлікія арганізацыі суродзічаў. Акрамя ўжо названых, у ЗША дзейнічаюць Беларускі кангрэсавы камітэт, Беларускі каардынацыйны камітэт у Чыкага, Беларуска-амерыканская нацыянальная Рада ў Чыкага, грамадска-культурныя цэнтры ў Саўт-Рыверы, Чыкага і каля Кліўленда ("Полацак") і інш. У 1992 годзе створана беларуска-амерыканская інфармацыйная служба і яе прадстаўніцтва ў Мінску. У ЗША размяшчаецца Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

У Канадзе функцыяніруюць Згуртаванне беларусаў Канады, Беларускае задзіночанне ў Квебеку, Беларускі грамадскі цэнтр у Таронта, Беларускі саюз моладзі, Беларуска-канадскі каардынацыйны камітэт і інш. Нягледзячы на значную прысутнасць выхадцаў з Беларусі ў Аргенціне, арганізаванае нацыянальна-культурнае жыццё тут адсутнічае. Беларускія эмігранты і іх нашчадкі гуртуюцца ў культурна-спартыўных клубах, якія аб'ядноўваюць перасяленцаў з краін былога СССР — клубах імя В. Бялінскага, М. Горкага, У. Маякоўскага, "Дніпро" ў Буэнас-Айрэсе, "Аўрора" ў Мар дель Плата, "Івана Франко" ў Санта-Фе і інш.

Федэральная Рада беларускіх арганізацый у Аўстраліі каардынуе дзейнасць 9-ці нацыянальных фарміраванняў, у тым ліку Беларускага аб'яднаня Аўстраліі, Беларускага аб'яднання ў Заходняй Аўстраліі (Перт), Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі і інш. Тут размяшчаецца Беларуская цэнтральная Рада.

Нацыянальна-культурныя, сацыяльныя, палітычныя інтарэсы беларусаў Польшчы выказваюць як старыя, так і такія новыя арганізацыі, як палітычная партыя Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Зьвязь беларускай моладзі і інш.

Ідзе працэс гуртавання беларусаў у новых незалежных дзяржавах на тэрыторыі былога СССР, у іншаэтнічных рэгіёнах якога з 30-х гадоў і да канца 80-х адсутнічалі якія-небудзь праявы арганізаванага нацыянальнага жыцця. Аб дынаміцы іх аб'яднання сведчыць грамадская, культурна-асветная дзейнасць у 1997 годзе больш 80-ці беларускіх суполак, таварыстваў, згуртаванняў, цэнтраў на постсавецкай прасторы. У Расійскай Федэрацыі цяпер ладзяць грамадска-культурныя мерапрыемствы нацыянальныя таварыствы, суполкі ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Калінінградзе, Петразаводску, Ніжнім Ноўгарадзе, Новасібірску, Ноўгарадзе, Якуцку, Саснагорску, Калузе, Цверы, Іркуцку, Кемераве і інш. На Украіне грамадска-культурныя таварыствы працуюць у Кіеве, Львове, Ялце, Чарнаўцах; у Малдове — Кішынёве і Бендэрах; Казахстане — Алматы і Прыазёрску. Актыўна дзейнічаюць згуртаванні беларусаў у Літве (Вільні, Шальчынінкаі і інш.), Латвіі (Рызе, Даўгаўпілсе), Эстоніі (Таліне, Йыхві). Створаны суполкі ў Кыргызстане (Бішкеку) і Узбекістане (Фергане), пачынаецца аб'яднанне суродзічаў і ў іншых краінах. Паявіліся і першыя прафесійныя згуртаванні — Асацыяцыя прадпрымальнікаў Латвіі "Беларускі шлях", аб'яднанне мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар" (Эстоніі, Літвы, Латвіі, Санкт-Пецярбурга). Моцны нацыянальны пачатак праяўляецца ў творчасці беларускіх літаратараў — А. Кірвеля, А. Кавалюк, І. Ласкова (Расія), Э. Вайвадзіша, С. Валодзькі (Латвія), М. Львовіч (Украіна). На постсавецкай прасторы плённа працуюць у галіне беларусазнаўства суродзічы з Расіі — А. Каўка, Я. Шыраеў, В. Грыцкевіч, М. Нікалаеў. За межамі Беларусі на постсавецкай прасторы дзейнічаюць беларускія школы (Вільня, Рыга) і нядзельныя школкі ў розных мясцінах, беларускі друк — газеты "Прамень" (Рыга), "Рунь" (Вільня), бюлетэнь "Шляхам Скарыны" (Масква) і інш., фальклорныя гурты, хоры. Царкоўна-рэлігійнае жыццё суродзічаў на нацыянальнай аснове складваецца ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Рызе.

Працэсы дэмакратызацыі, нацыянальнага адраджэння, палітычныя і эканамічныя рэформы пасля красавіка 1985 года стварылі ўмовы для пераасэнсавання ролі дыяспары ў жыцці народа, фармавання прынцыпова новай дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да яе. З канца 80-х гадоў новыя грамадскія рухі і фарміраванні (БНФ, ТБМ і інш.) сталі ініцыятарамі ўсталявання сталых стасункаў з нацыянальнымі арганізацыямі эміграцыі, а таксама суполкамі, таварыствамі суродзічаў на абшарах Саюза. Устойлівыя істотныя змены адносін на дзяржаўным узроўні да нацыянальнай дыяспары пачаліся толькі ў сувязі з працэсам набыцця незалежнасці Беларусі — пасля прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце (ліпень 1990 года) і надання ёй канстытуцыйнага статуса (жнівень 1991 года), дэнансацыі дагавора аб стварэнні СССР (снежань 1991 года).

**Галіна СЯРГЕЕВА.**

---

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 44—46.**

## НАМ ПІШУЦЬ

# ЁСЦЬ ПАДРУЧНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

У галоўнай спецыялізаванай рэдакцыі літаратуры мовамі нацыянальных меншасцяў Украіны выдавецтва "Либідь" толькі што выйшаў першы ў гісторыі Украіны падручнік "Беларуская мова", аўтарам якога з'яўляецца выдатны знаўца беларускай мовы і літаратуры, прафесар Кіеўскага нацыянальнага універсітэта імя Тараса Шаўчэнкі Рыгор Піўтарак. Падручнік зацверджаны Міністэрствам асветы Украіны для навучання беларускай мове вучняў агульнаадукацыйных школ, гімназій і студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў асветы, у якіх студэнты-філолагі пры вывучэнні курсу "Сучасная славянская мова" зараз могуць выбраць для вывучэння не толькі польскую, чэшскую, балгарскую, рускую, сербскахарвацкую, славацкую, славенскую, македонскую, але і беларускую мову, мову, якая вельмі зразумелая ўкраінцам. Прафесар Рыгор Піўтарак ужо некалькі гадоў запар навучае ёй студэнтаў-філолагаў Нацыянальнага універсітэта, мае вялікі вопыт у гэтай справе. Дарэчы, менавіта ў прафесара Р. Піўтарака былая мая вучаніца Зінаіда Бандарэнка (не блытайце яе з дыктарам Беларускага тэлебачання!) навучылася цудоўна не толькі чытаць і пісаць па-беларуску, але і размаўляць!..

...У прадмове да падручніка спадар Рыгор Піўтарак піша: "Украінскі і беларускі народы з даўніны яднаюць масты дружбы і братэрства. Яны маюць шмат агульнага ў гістарычным лёсе, мове, песнях, казках, звычках, таму заўсёды адчувалі патрэбу ва ўзаемастасунках, пастаянным абмене жыццёвым і культурным вопытам...

...Украіна стала другою Бацькаўшчынай амаль для паўмільёна беларусаў. Адарваныя ад свайго краю, яны не мелі спрыяльных умоў для вывучэння роднай мовы, і пераважная іх большасць ёю не валодае. Зараз і сярод іх абуджаецца нацыянальная свядомасць, патрэба ў родным слове, а ў месцах кампактнага пражывання — і ў беларускай школе. Вось жа, на Украіне ўпершыню так сур'ёзна паўстала праблема сістэмнай і мэтанакіраванай падрыхтоўкі спецыялістаў па беларускай мове і шырэй — беларусістыкі ў цэлым. Такім чынам, падрыхтоўка беларусістаў шырокага профілю набывае дзяржаўнае значэнне..."

Дарэчы, згаданая мною Зінаіда Бандарэнка ў сваім дыпломе мае вось такі запіс пра яе спецыяльнасць: "Філолаг. Выкладчык украінскай мовы і літаратуры, другая спецыяльнасць — выкладчык беларускай мовы і літаратуры". У размове з ёю я даведаўся, што студэнты — будучыя выкладчыкі ўкраінскай мовы і літаратуры вельмі хутка засвойваюць "азы" беларускай мовы, а літаральна ўжо з другога семестра ў яе вывучэнні няма абсалютна ніякіх праблем! Не хапала, праўда, у час яе навучання ў Кіеўскім нацыянальным універсітэце падручніка беларускай мовы, напісанага для ўкраінцаў. І вось зараз гэты "прабел" у падрыхтоўцы выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры для Украіны ліквідаваны, дзякуючы стараннем і намаганням шаноўнага прафесара Рыгора Піўтарака, за што яму нізкі паклон і наша сардэчная падзяка!

...Спадар Рыгор даслаў мне адзін экземпляр падручніка са сваім аўтографам: "Шчыраму ўкраінскаму беларусу спадару Петрусю Капчыку з павагай — ад аўтара". 24.09.97 г., аўтарскі роспіс..." Я адразу ж накінуўся на падручнік, каб ацаніць ягоную вартасць і прыдатнасць для навучання беларускай мове членаў гурта беларускай культуры "Зорка Венера", якім мне даводзіцца кіраваць. На мой погляд, вельмі правільна паступіў аўтар падручніка, калі падае першыя раздзелы па-ўкраінску, а менавіта: Графіка, Фанетыка, Арфаэпія, Арфаграфія (а гэта толькі 36 старонак падручніка, у якім 240 старонак). Пачынаючы з пятага раздзела — Лексікалогія ўжо дамінуе поўнасцю беларуская мова не толькі ў граматыцы, але і ў тлумачэннях аўтара, у моўных параўнаннях моў беларускай і ўкраінскай... Апроч граматыкі, у падручніку вялікая ўвага нададзена і беларускай літаратуры. Літаратурныя тэксты прапануюцца для чытання і практыкаванняў. Сярод аўтараў славутыя беларускія пісьменнікі Цётка ("Прысяга над крывавымі разорамі", "Шануйце роднае слова!"), Янка Журба ("Перад святам"), Максім Багдановіч — нізка вершаў: "Краю мой родны! Як выкляты Богам...", "Слуцкія ткачыхі", "Зорка Венера", "Пагоня", "Трыялет", а таксама ягоная проза: "Музыка", "Хто мы такія" (Ліст да простых людзей); Янка Купала прадстаўлены васьмю паэтычнымі творамі, у тым ліку "Гэй, наперад!", "З кутка жаданняў", "За ўсё"... Прывабяць тых, хто будзе вывучаць беларускую мову, і вершы славутага песняра Якуба Коласа: "Родныя вобразы", "Не бядуй!", "Песняру", "Да працы!", "Голас зямлі", а таксама "Камень" (з алегарычных апавяданняў "Казкі жыцця"), урыўкі з аповесці "Дрыгва" ("Набліжэнне вясны"), трылогіі "На ростанях" ("Над Нёманам")... Паэзіяй ("Сняжынкі") і прозай (урыўкам з рамана "Язэп Крушынскі" — "Апошні снег"), а таксама "Загадкай" і "Прытуліся ка мне" прадстаўлены Змітрок Бядуля. Гэткім жа чынам пададзены і Цішка Гартны: верш "Да Нёмана", урывак з рамана "Сокі цаліны" і "На сенажаці", замалёўка "Адвячоркам"... Тры навелы Алеся Гурло дапамогуць навучэнцам зразумець беларускі характар, а менавіта: "Ахвяра", "Вясна", "Восень"... Ну а калі дойдзе чарга да славутага гімна беларусаў замежжа, які напісала паэтка Канстанцыя Буйло — "Люблю", то захочацца не толькі чытаць гэты верш, але і заспяваць! За вершам-песняй Канстанцыі Буйло ідзе "Рускі" Максіма Гарэцкага, якога змяняюць Міхась Чарот (верш "Я зноў...") і Паўлюк Трус (верш "Сасна")... Не мог абысціся ўкладальнік падручніка і без Кузьмы Чорнага, даўшы ў падручніку ягоны "Начлег у вёсцы Сінегах" і ўрывак з рамана "Зямля" — "Позняе лета"... Хто яшчэ патрапіў у падручнік?! Калі ласка, назаву іх прозвішчы: Уладзімір Дубоўка, Віталь Вольскі, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Ларыса Геніюш, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Сяргей Грахоўскі, Іван Шамякін, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч ("Бацькаўшчына"!), Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Вера Вярба... Шкада, што няма сярод названых аўтараў Еўдакіі Лось, якую добра тут ведаюць і шмат выдалі па-ўкраінску, Сяргея Панізьніка, які вучыўся ў Львове, шмат напісаў вершаў у гэтым цудоўным горадзе, як і Івана Мележа, без імя і творчасці якога асабіста я ўвогуле не ўяўляю беларускую літаратуру! А Кандрат Крапіва?! І спіс гэты таксама можна доўжыць, але не будзем сурова судзіць аўтара падручніка... беларускай мовы! Так, мовы, а не літаратуры. Як кажуць у такім выпадку, даў тое, што было пад рукамі або што яму даспадобы...

Знайшоў у падручніку месца спадар Піўтарак і для навукова-публіцыстычных тэкстаў, а менавіта: "Народ і яго гісторыя" Міколы Ермаловіча, "Чым жа пісалі на папірусе" Анатоля Клышкі, "Пуцяводная зорка беларусаў" Вячаслава Шалькевіча, "Беларускія летапісы і хронікі" Вячаслава Чамярыцкага, "Палемічная паэзія Беларусі" Івана Саверчанкі, "Беларусы Аргенціны" Кастуся Шалястовіча, "Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні" Барыса Сачанкі, "Шляхамі ўзаемаазнаямлення" Таццяны Кабржыцкай і Вячаслава Рагойшы, "Леся Украінка і Беларусь" Паўла Ахрыменкі, "Палессе" Уладзіміра Караткевіча і "Людзі зямлі беларускай" (урыўкі з кнігі "Зямля пад белымі крыламі", выдадзенай у Мінску 20 гадоў таму назад — у 1977 годзе)... А завяршае падручнік "Кароткі беларуска-ўкраінскі вучэбны слоўнік", дзе пададзены словы, якія розняцца ў нашых мовах...

...На заканчэнне свайго допісу хачу праінфармаваць чытачоў газеты: калі хто з вас хоча набыць згаданы ў допісе падручнік "Беларуская мова" Рыгора Піўтарака, вам патрэбна звярнуцца непасрэдна ў выдавецтва "Либідь" вось па гэтаму адрасу: **Україна, 252001, м. Київ-1, вул. Хрещатик, 10. тэл/факс(044) 229-11-71, тэл (044) 228-58-04, (044) 228-11-81.**

Падручнік тут прадаецца па 4 грыўні 70 капеек. Яго ж можна набыць і ў аўтара (атрымаў аўтарскі ганарар не грашыма, а 100 экземплярамі падручніка, які ён аддае роўна па 4 грыўні). Адрас спадара Рыгора Пятровіча Піўтарака такі: **252115, м. Київ-115, вул. М. Краснова, 12, кв. 33, тэлефон: (8-044) 450-53-43.**

Лічу, што кожны свядомы беларус абавязкова павінен набыць гэты падручнік нават з-за яго літаратурнай часткі! Асабіста я толькі ў ім упершыню прачытаў "Шануйце роднае слова!" Цёткі, у нашых школьных падручніках у БССР па роднай літаратуры такога, на жаль, не друкавалі!..

**Пятрусь КАПЧЫК.**

Украіна, г. Ізяслаў.

# МАСТАЦКАЯ ВЫСТАВА Ў ВІЛЬНІ

У апошнія дні кастрычніка ў Вільні адкрылася чарговая выстава беларускіх мастакоў Літвы. Два гады назад, на папярэдняй выставе, было вырашана, што яна будзе наладжвацца праз кожныя два гады. Пры дапамозе Пасольства Рэспублікі Беларусь і Дэпартамента нацыянальных меншасцяў Літоўскай Рэспублікі пастанова паспяхова выканана.

На адкрыццё выставы прыбыло каля паўтары сотні ўдзельнікаў і гасцей. Ушанавалі мерапрыемства дыпламаты Беларусі і Украіны, дэпутаты і мастакі Літоўскай Рэспублікі і шэраг іншых афіцыйных асобаў. У праграму былі ўключаны афіцыйныя выступленні, агляд выставы, канцэртная частка і індывідуальныя сустрэчы і гутаркі з мастакамі.

Прэлюдыяй стала прэс-канферэнцыя, на якую прыбыло больш дзесяці прадстаўнікоў прэсы, радыё, тэлевізіі — літоўскай, украінскай, польскай.

Дырэктар "Аркі" (Дому выставаў) — Дзіяна Стомене, адкрываючы выставу, перадала слова кіраўніку Каардынацыйнага цэнтра беларускіх суполак — Леаніду Мурашку. Заслужаны дзеяч і артыст у кароткай прамове расказаў пра дзейнасць беларускіх мастакоў Віленшчыны, пра іх дасягненні і падзякаваў прысутным дастойным гасцям за ўшанаванне выставы, а таксама яе актыўным удзельнікам — мастакам. У першую чаргу, Пасольству Рэспублікі Беларусь з Я. Вайтовічам на чале, кіраўніцтву Дэпартамента нацыянальных меншасцяў і іншым асобам, якія аказалі рэальную дапамогу ў арганізацыі мерапрыемства.

У выступленнях Паўнамоцнага Пасла Беларусі Я. Вайтовіча, саветніка Пасольства В. Жлутко, дэпутата сп. Гражуліса, прадстаўніка Саюза літоўскіх мастакоў і іншых шмат цёплых слоў прагучала ў адрас кіраўніцтва "Аркі", якое заўсёды спагадна ставіцца да прадстаўнікоў беларускай культуры; Пасольства Рэспублікі Беларусь, якое многа ўвагі надае і аказвае рэальную падтрымку культурным патрэбам мясцовай дыяспары, а таксама Дэпартаменту міністэрства. Пасля кароткага канцэрта госці і ўдзельнікі выставы заняліся аглядам мастацкіх работ.

Канцэрт вёў заслужаны артыст Літоўскай оперы Л. Мурашка з удзелам выдатнай піяністкі Галіны Знайдзілоўскай. Доўгімі апладысментамі суправаджаліся выкананыя ім сольныя нумары і ў дуэце з А. Старавойтавым (музыка Ю. Семянякі, Куліковіча і інш.). Не меншым поспехам карысталася добра знаная ў Вільні салістка оперы Ступнянэк (чэшка).

У час агляду выставы найбольшае зацікаўленне выклікалі не вельмі багата прадстаўленыя работы таленавітага скульптара і мастака выяўленчага жанру (алей, сэпія, акварэль), разьбяра па дрэву, металу і каменю Эдуарда Падбярэзскага. Гэты залішне сціплы мастак праявіў свой талент у галіне рэстаўратарства гінучых палоцен і скульптурных помнікаў даўніны (XVIII і ранейшых стагоддзяў). У даны момант заказы да яго ідуць галоўным чынам з Беларусі і Украіны. У Вільні ім выкананы і ўстаноўлены два выдатныя помнікі Ф. Аляхновічу (на Росах) і Паўлу Каруза (на могілках св. Ефрасінні).

Аглядаем стэнд (зашклёная габлёта) "Шахматы". Шаснаццаць выразаных з моранага дуба і грушавага дрэва мастацкіх фігурак вышынёю 15—20 сантыметраў выклікаюць здзіўленне і захапленне.

Аглядаючы з мастаком яго невялікую карціну сялянскага закутка (хата з прыбудовамі і надворак), мы даведаліся дзіўную гісторыю. Два гады назад на загончыку аўса каля гэтай хаткі прызямліўся НЛА. Гэта была "талерка" каля пяці метраў у дыяметры шэрага колеру. Ніякага гуку не чулася. Выпадкова гаспадар зірнуў у акно і знерухомеў: нечакана аб'ект перамяніў колер на малінавы, чырвоны... Засвяціўся (сярод белага дня!), абвалокся бліскучаю імглой і знік бясследна... Пасаджаная пазней на гэтым месцы бульба не стала расці. Засталася голая зямля!

Немалую зацікаўленасць выклікалі лёгкія акварэлі Алега Аблажэя. Гэты даравіты мастак чамусьці не займаецца вялікімі палотнамі. І наогул няшмат ім дадзена работ на выставу. Але амаль кожная з іх прыцягвае ўвагу гледачоў сваёй неадольнай прыгажосцю, лірызмам, нібыта павуцінка, аблытвае гледача і надоўга застаецца ў памяці.

Мастак і крытык спадар Харэўскі, падкрэсліваючы арыгінальнасць і прыгажосць творчасці Э. Падбярэзскага, пазітыўна акрэсліў даволі ярка выражаныя мастацкія дасягненні Аблажэя і Уладзіміра Кузьменкі. Яго "Касцёл у Вэрках" і "Закутак старой Вільні" маглі б аздобіць не толькі ўтульны пакой, але і прэстыжны музей. Чулася думка пра дасягненні С. Зялёнкі, які заняў вялікімі карцінамі цэлую сцяну галоўнай залы выставы. Аднак былі заўвагі, што ён... шкадуе свайго часу на канчатковую "шліфоўку", адухоўленне прыгожых наогул пейзажаў. Зрэшты, як кажуць людзі, у назіральнікаў розныя густы.

У цэлым выстава выклікала немалое зацікаўленне. І гэта зразумела. Усе, хто выступаў, згодна падкрэслілі, што беларускімі мастакамі за апошнія гады дасягнуты значны прагрэс. Іх мастацкія задумы і іх рэалізацыя сталі больш спелымі і... смелымі! Нават наймалодшыя зразумелі, што не святыя гаршкі лепяць! Смеласць і шырыня думкі ствараюць прастору для практычнай дзейнасці.

**А. ЗІНКЕВІЧ.**

## МІНУЛАГА НЕ ВЕРНЕШ

***У адным з вераснёўскіх нумароў "Голасу Радзімы" быў надрукаваны артыкул беларускай пісьменніцы Лідзіі Арабей "Мая вёска". Хутка яна атрымала на яго водгук з Польшчы, ад Марыі Путрамент, сястры вядомага польскага пісьменніка Ежы Путрамента, з якою перапісваецца ўжо доўгія гады. Урывак з пісьма, са згоды Лідзіі Арабей, прапануем нашым чытачам.***

Дарагая Лідзія Львоўна!

Я часта думаю пра Вас, неяк стала пісаць вам пісьмо, але прыйшло мне ў галаву, што можа быць не трэба пасылаць, і пісьмо засталося ў мяне ў шуфлядзе. Але вось прыйшоў "Голас Радзімы" з вашым расказам пра паездку ў родную вёску, і зайздрасць — у добрым сэнсе — прымусіла падзяліцца з вамі маім сумам.

Летась я ездзіла ў Ліду на "сусветную" сустрэчу лідчан. Наша сям'я жыла ў Лідзе і ў Баневе — гэта такая мясцовасць, як аказалася, не існуючая ўжо над Нёманам, за 20 кіламетраў ад Ліды — з 1927 да 1940 года. Раней мае бацькі жылі ў Мінску, бацька нарадзіўся ў Панявежысе, мама — недзе пад Мінскам. Вайна і рэвалюцыя прымусілі іх перабрацца на Захад. Другая сусветная вайна зноў перакінула нас праз Сібір на Захад. Так апынуліся мы ў Варшаве. Нядрэнна, можна сказаць. Але ўсе нашы блізкія засталіся недзе там: у Літве, Беларусі, Расіі. І магілы нашых дзядуль і бабуль таксама там. Нам увогуле жылося не так ужо дрэнна. Але на старасці гадоў я раптам зразумела, што мы абедзве з маёй сястрой "не прыняліся" тут, як не прыжываецца не ў пару перасаджанае дрэва.

І вось я еду ў Ліду шукаць маё мінулае. Пасля вайны я была ў Лідзе два ці тры разы, але гэта былі кароткія і нейкія шумныя паездкі. Мяне сустракалі ці не з музыкай, частавалі, вазілі і вельмі хутка выправаджвалі. А мне трэба было пахадзіць па беразе Нёмана, пашукаць у лясочку, які вырас ужо пасля вайны, камяні, на якіх стаяў наш дом, здзічэлы кусцік бэзу ці сухую яблыню. Але і на гэты раз я нічога не знайшла. Горш: нічога не пазнала. Вядома, я ведала, што стары аселы будынак — гэта мая гімназія, што маленькая, жудасна занядбаная цэркаўка — тая самая, у якую хадзіў мой брат Ежы спяваць на клірасе, што ў замку я некалі каталася на каньках — там зімой быў каток. Усё гэта я ведала, але не пазнавала. Ні разу не ўздрыгнула сэрца. Дзве мае аднакласніцы — адна з Англіі, другая, здаецца, з Канады — таксама аказаліся чужымі. Мы не толькі не пазналі адна адну, але нам нават не было пра што гаварыць. Вось так.

Па праўдзе, я гэтага чакала, разумела, што мінулага не вернеш, а ўсё ж горка.

**Марыя ПУТРАМЕНТ.**

Варшава.

# КІШЧАНКА АЛЯКСАНДР МІХАЙЛАВІЧ

**11 лістапада на 65-м годзе пасля цяжкай хваробы пайшоў з жыцця народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій рэспублікі Аляксандр Міхайлавіч Кішчанка.**

**У некралогу, падпісаным кіраўнікамі дзяржавы, дзеячамі культуры і мастацтва, калегамі, гаворыцца:**

**"А. Кішчанка нарадзіўся у 1933 годзе ў вёсцы Белы Калодзеж Багучарскага раёна Варонежскай вобласці. Тут, у Прыдонні, прайшло яго дзяцінства і юнацкія гады. Прафесіянальную адукацыю Аляксандр Міхайлавіч атрымаў у Львоўскім дзяржаўным інстытуце прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва.**

**У 1963 годзе мастак прыехаў у Беларусь, дзе шэраг гадоў выкладаў на аддзяленні манументальна-дэкаратыўнага жывапісу мастацкага факультэта БДТМІ, адначасова актыўна займаючыся творчасцю і арганізацыяй габеленавай вытворчасці ў рэспубліцы.**

**У шэрагу сучасных мастакоў А. Кішчанка — тварэц, якому належыць асобае месца. Яго творчая спадчына складаецца з соцень твораў, таленавітых і разнастайных: жывапісец-віртуоз, майстар філасофскіх карцін і партрэтаў; манументаліст, які цудоўна валодае тэхнікамі мазаікі, керамікі і габелена, выдатны рысавальшчык і каларыст, мастак, які пастаянна шукаў уласную сістэму пабудовы прасторы, свой пластычны стыль, заснаваны на ўзаемадзеянні дзвюх асноў: сімволікі, уласцівай прынцыпам манументальнай творчасці, і канкрэтнай жыццёвай пераканаўчасці вобразаў.**

**У гісторыі мастацтва застануцца яго мазаічныя пано, якія ўпрыгожылі сталічныя будынкі мікраараёна Усход-І, гасцініцу "Турыст", праектны інстытут на Юбілейнай плошчы, роспіс у Місхоры, манументальныя габелены ў зале эканамічнага і сацыяльнага Савета ААН у Нью-Йорку, іншых дзяржаўных і грамадскіх установах. Ён аўтар унікальнага "Габелена веку" — гэтай своеасаблівай "зорнай шпалеры", твора, які несумненна ўвойдзе ў гісторыю сусветнага мастацтва.**

**Мастак высокага і светлага таленту, добрай і шчодрай душы, першаадкрывальнік новых сусветаў у мастацтве, ён застанецца назаўсёды і ў гісторыі айчыннай культуры, і ў памяці ўдзячных людзей, дзеля якіх ён жыў і тварыў".**

# КАЛАСАВІНЫ



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**Шырока адзначаецца ў рэспубліцы 115-я гадавіна з дня нараджэння Якуба Коласа. Юбілейныя ўрачыстасці пачаліся навуковай канферэнцыяй ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа ў Мінску. Затым свята перамясцілася на Стаўбцоўшчыну — радзіму паэта, куды прыехалі беларускія пісьменнікі і паэты, сваякі песняра, шматлікія паклоннікі паэзіі Якуба Коласа. Удзельнікі свята наведалі дом у Акінчыцах, дзе нарадзіўся Якуб Колас, філіял музея ў Альбуці, хутар Ласток, дзе прайшлі яго дзіцячыя гады. Па дарозе ў Ласток госці свята пабывалі ва ўрочышчы Чартавіцы, дзе ўпершыню адкрыты для наведвання помнік прыроды, авеяны легендамі і апісаны ў творах Якуба Коласа, — Чортаў камень.**



**Асноўным цэнтрам свята стаў Ласток. Тут адбылася галоўная падзея юбілейных урачыстасцей — адкрыццё Дома-музея і тэматычнай выставы "Сымон-музыка". У экспазіцыі — рукапісы паэмы, кнігі, работы мастакоў і майстроў керамікі па матывах твораў Якуба Коласа, тэатральныя афішы спектакляў, пастаўленых у тэатрах Беларусі. На свяце гучалі вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя Якубу Коласу, успаміны тых, хто ведаў песняра, і, вядома, народныя песні Панямоння.**

**НА ЗДЫМКАХ: Акінчыцы. У доме, дзе нарадзіўся паэт; знаёмства з выставай "Сымон-музыка"; хутар Ласток. Дом, дзе прайшлі дзіцячыя гады паэта (1885—1890 гады).**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**
**Фота аўтара.**



# ФАЛЬКЛОР У НАСТУПНЫМ ТЫСЯЧАГОДДЗІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

тура ва ўмовах сучасных перамен у розных рэгіёнах Еўропы". Канферэнцыю ладзілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Беларускі інстытут праблем культуры.

Міжнародная арганізацыя ІОV, якая працуе пад эгідай ЮНЕСКА, аб'ядноўвае 127 краін. Яе дзейнасць накіравана на выяўленне найбольш актуальных, глабальных праблем сучаснай народнай культуры ў сусветнай супольнасці, на пошукі шляхоў іх вырашэння ў накірунку захавання і развіцця нацыянальных культур, гуманізацыі з дапамогай іх сучасных грамадстваў. Для нашай краіны правядзенне канферэнцыі такога ўзроўню — падзея, безумоўна, значная, у першую чаргу, дзякуючы складу аўтарытэтнейшых навукоўцаў і практыкаў з пятнаццаці еўрапейскіх краін. Гэта людзі, якія ўсё сваё жыццё прысвяцілі народнай культуры, традыцыям, фальклору, якія адметныя не толькі шырокім веданнем праблем народнай культуры, але і ўласным энтузіязмам па яе адраджэнню і захаванню. Менавіта мяне моцна ўразіў той факт, што амаль кожны з вучоных, якія выступілі на канферэнцыі, мае ўласны фальклорны калектыў, якім з поспехам кіруе. Гэта падкрэслівае тую грунтоўнасць у сувязях паміж навукай і практыкай, якая і зможа забяспечыць справу захавання этнічнай культуры свайго народа, яе адметнасць, яе самабытнасць.

А тое, што народнай культуры сёння многае пагражае, адзначылі амаль што ўсе ўдзельнікі канферэнцыі. Пан Мечыслаў Марчук з Польшчы, старшыня камісіі па навуцы ІОV, прысвяціў аналізу існуючых у наш час пагроз для народнай культуры ўвесь свой даклад. Ён глыбока выявіў гістарычныя і палітычныя ўмовы разбурэння народных культур Еўропы, недастатковасць талерантнасці, нацыяналізм, шавінізм, фундаменталізм — як галоўныя ворагі розпасці нацыянальных культур, калі нацыянальная і палітычная нецярпімасць вядзе да непавагі іншых народаў, адмаўлення іх права існаваць і быць іншымі, да нянавісці і варожасці. Не меншымі з'яўляюцца і цывілізатарскія змены, якія побач са станоўчымі маюць і негатыўныя вынікі. Дэструктыўная эканоміка ў адносінах да экасістэмы пераносіцца і на грамадскае асяроддзе, важным кампанентам якога на працягу тысячагоддзяў была традыцыйная культура, асабліва фальклор. У наш урбанізаваны час сваёй сілы культурнага ўздзеяння пазбавілася месца жыхарства чалавека (традыцыйная вёска з яе бытавым і культурным укладам), а таксама сям'я як аснова механізма пераемнасці народнай культуры. Разбураюцца ўзаконеныя вякамі традыцыі, этычныя нормы чалавечага існавання, а замест іх нарастаюць грамадскія паталогіі ў выглядзе алкагалізму, наркаманіі, бандытызму, тэрарызму. Ёсць пагроза народнай культуры і з боку сучаснай масавай культуры, калі пры дапамозе аўдыёвізуальных сродкаў ідэалы народнай культуры моцна выціскаюцца прымітыўным кічам амерыканскага тыпу, што нясе агрэсіўныя ідэі. Адбываецца выцясненне слова вобразам, карцінкай, што абмяжоўвае магчымасці людзей, асабліва дзяцей, разумець чытаемы тэкст, ствараць уласны вобраз, фантазіраваць. Усё гэта вядзе да уніфікацыі і стандартызацыі культуры, збядняе грамадства. Гэтую тэму падтрымала і Таццяна Ефіменка з Украіны ў сваім дакладзе "Экалагічная каштоўнасць народнай культуры ў кантэксце глабальных праблем сучаснасці (светапоглядны і сацыяльна-палітычны аспекты)". Яе калега Аксана Мікіценка асаблівую ўвагу засяродзіла на такім усеагульным феномене, як фальклорны кіч. У дакладзе "Народная культура ў працэсе пераўтварэнняў — страты і знаходкі" яна паказала, што кіч адчужае людзей ад народнай культуры і яе сапраўднай прыгажосці, бо мае ён спрошчаную да прымітыву мову, моцна заніжаную эстэтыку. Гэта, па трапнаму выказванню Набокава, "стылізаванае невуцтва", вульгарнасць. Шкада, падкрэсліла дакладчыца, што ў моладзі сёння няма трывогі з-за адсутнасці навокал прыгажосці, чысціні як у побыце, так і ў адносінах. А менавіта гэтую прыгажосць і нясе ў сабе сапраўдная народная творчасць, глыбока індывідуальная і тым не менш агульназначная. Падобныя праблемы ўзняла ў сваім дакладзе "Народная культура і яе сувязь з сучасным дэмакратычным грамадствам" Фані Хормава з Грэцыі. Яна звярнула ўвагу на значнасць рэгіянальных асаблівасцей народнай культуры, якія гінуць у працэсе універсалізацыі і камерцыялізацыі культуры, эксплуатацыі яе для рэкламных мэтаў, а таксама на працэс раз'яднання паміж носьбітамі традыцыйнай культуры, які назіраецца ў сучасных умовах. Прафесар з Балгарыі Тодар Джыджаў у дакладзе "Сучасныя перамены ў Еўропе і фальклорны працэс" побач з негатыўнымі працэсамі, звязанымі з парушэннямі сферы бытавання фальклору, падкрэсліў, што нягледзячы на вялікія страты, фальклор жыве. Але фальклорны працэс зведаў моцныя змяненні. Ён выйшаў на сцэну, а сцэнічная інтэрпрэтацыя вядзе да росту прафесіянальнага майстэрства выканаўцаў, якое падпарадкоўваецца ўжо сцэнічным выканальніцкім крытэрыям. Гэтага патрабуюць і фальклорныя фестывалі, дзе выканаўцы фальклору — заўсёды артысты, якія спяваюць ці танцуюць ужо не для сябе, а для публікі. Вядома ж, такія адносіны з фальклорам губяць яго натуральнасць, а часта і імправізацыйную аснову і рэгіянальную дакладнасць. Але жыццё фальклору працягваецца, пашыраецца яго сувязь з агульнакультурнымі сучаснымі працэсамі.

Наогул, пытанням, звязаным з сучасным выканаўцам фальклору, быў прысвечаны цэлы шэраг цікавых дакладаў. Людзі сталага веку — носьбіты аўтэнтычнага мастацтва, пакідаюць гэты свет, а разам з імі знікаюць і традыцыі, якія яны неслі і захавалі. Сёння гэтую эстафету пакаленняў пераймаюць дзеці, моладзь, і ад таго, як яны гэта зробяць, з якімі мэтамі, імкненнямі, з якім уменнем, уважлівасцю, майстэрствам, у многім залежыць далейшы стан народнага мастацтва. Аб гэтым гаварылі і прафесар Драгаслаў Дэвіч з Сербіі, і Вячаслаў Карастылёў з Расіі, і Ёрг Рап з Германіі, і Тамара Варфаламеева з Мінска.

Усебакова разглядалася дзейнасць клубаў аматараў фальклору, культурных суполак, аматарскіх калектываў, існуючых у гарадах, выяўлялася значнасць семінараў і канферэнцый па праблемах збераджэння і засваення фальклору, новых формаў фестывальных рухаў, праблемаў паміж самадзейнасцю і аўтэнтычнымі гуртамі ў падыходах да рэстаўрацыі фальклору і, у прыватнасці, каляндарных і сямейных абрадаў. Неабходна ачысціць сапраўдны фальклор ад усяго наноснага, што скажае яго сутнасць. Трэба фарміраваць такую культуру, якая раўнацэнна ставіцца да сучаснага і мінулага. А для гэтага патрэбна рыхтаваць кадры прафесійна падрыхтаваных дзеячаў культуры і педагогаў, якія возьмуць на сябе ролю носьбіта і транслятара народнай культуры і этнапедагогікі. Аб шляхах падрыхтоўкі такіх спецыялістаў у Беларускім педагагічным універсітэце расказала Любоў Раманенка.

Асаблівую цікавасць выклікалі даклады, якія ўздымалі праблемы засваення традыцыйнай культуры сучаснымі дзецьмі. І гэта не выпадкова: менавіта сённяшняе падрастаючае пакаленне і стане тым транслятарам лепшых дасягненняў народнай культуры, з якімі мы і выйдзем у трэцяе тысячагоддзе. Таму неабходна адпаведна

падрыхтаваць іх да гэтай адказнай дзейнасці, выхоўваючы ў разуменні важнасці народнай культуры, яе этычных і эстэтычных ідэалаў. Аб сацыялізацыі дзяцей у працэсе навучання фальклору гаварыла ў сваім дакладзе Наіра Кілічан з Арменіі, аб развіцці творчага патэнцыялу дзяцей пры засваенні фальклору — аўтар гэтага матэрыяла, аб дзіцячым фальклоры ў святле сучасных перамен — Крум Гергіеў з Балгарыі.

З цікавасцю мы паглядзелі выступленне дзіцячага фальклорнага калектыву з вёскі Міханавічы, які выканаў гульневыя і абрадавыя песні. Кіраўнік ансамбля Ларыса Рыжкова падкрэсліла, што практыка засваення дзецьмі фальклору абапіраецца тут на вусны метад, асноўны для аўтэнтычнага фальклору, і менавіта гэта садзейнічае глыбокаму і дакладнаму спасціжэнню народнай спадчыны.

Значная частка канферэнцыі была прысвечана дэкаратыўна-прыкладному мастацтву і нацыянальнаму касцюму. Аб праблемах, стратах і дасягненнях у гэтай галіне гаварылі Барбара Базіліх з Польшчы, Элізабэт Тэатокі з Грэцыі, Яўген Сахута, Галіна Нячаева і Вольга Лабачэўская з Беларусі. Даклады цікава ілюстраваліся слайдамі, на якіх цудоўнымі фарбамі ігралі рознакаляровыя народныя строі і вырабы з саломкі, гліны, дрэва, тканіны.

Праблемы выжывання аўтэнтычнага фальклору ў сучасным свеце, формы яго існавання і рэстаўрацыі ў харавым, народна-інструментальным і харэаграфічным мастацтве былі глыбока раскрыты ў дакладах Алы Лявонавай з Украіны, Вячаслава Карастылёва з Расіі, Ханса-Ерга Брэнэра з Германіі, а таксама вядомых і аўтарытэтных беларускіх фальклярыстаў Анатоля Фядосіка, Зінаіды Мажэйка, Іны Назінай, Канстанціна Кабашнікава. Дакладчыкі разгледзелі стан сучаснага беларускага фальклору, яго сувязь з іншымі славянскімі культурамі, новыя формы яго бытавання і перспектывы далейшага развіцця.

Што ж сваёй традыцыйнай культурай нам, беларусам, варта ганарыцца, бо, нягледзячы на мноства праблем, у першую чаргу, матэрыяльных, яна не знікла, не растварылася ў безлічы войнаў і іншых палітычных і грамадскіх узрушэнняў, якія адбываліся на нашай тэрыторыі. Пацвярджэнне гэтаму — праца шматлікіх таленавітых майстроў і фальклорных ансамбляў, фестываляў і выстаў народнай творчасці, навуковыя дасягненні ў галіне фальклярыстыкі. А яшчэ — апантаная дзейнасць работнікаў культуры рэспублікі, якіх не палохае бездань праблем, беднасць эканомікі, мізэрнасць аплаты іх працы, бо ў многім дзякуючы іх намаганням не гіне наша унікальная і багатая народная спадчына. Шмат гэтых людзей таксама прыехала на канферэнцыю, і, прызнаюся, вельмі прыемна было тут сустрэцца з імі — загадчыкамі аддзелаў культуры з Віцебшчыны і Гомельшчыны, работнікамі ўстаноў народнай творчасці з Гродзеншчыны і Брэстчыны, кіраўнікамі фальклорных калектываў з Магілёўшчыны і Міншчыны. Менавіта іх зацікаўленасць, іх удзел у рабоце канферэнцыі надалі ёй шырокі рэзананс і ў межах рэспублікі.

Разнастайнай была і культурная праграма для замежных удзельнікаў: выставы беларускага касцюма, вырабаў з ільну, саломы, ткацтва, ганчарства, наведванне музеяў народнага мастацтва ў Раўбічах і Нацыянальнай акадэміі навук, а таксама — музея матэрыяльнай культуры ў вёсцы Дудуткі Пухавіцкага раёна. Менавіта тут адбылося закрыццё канферэнцыі, на якое прыехалі прадстаўнікі Міністэрства культуры на чале з міністрам Аляксандрам Сасноўскім. Ён падзякаваў усім за ўдзел у гэтай патрэбнай і цікавай канферэнцыі і выказаў спадзяванне, што ў будучыні Беларусь яшчэ больш цесна будзе супрацоўнічаць з арганізацыяй па народнай творчасці IOV. Кіраўніцтва IOV наладзіла прэс-канферэнцыю, на якой яе генеральны сакратар Аляксандр Вейгл, а таксама яго намеснікі падкрэслілі высокі ўзровень канферэнцыі і вялікія навуковыя дасягненні беларускай фальклярыстыкі.

Скончылася канферэнцыя, раз'ехаліся яе ўдзельнікі, павезлі беларускія сувеніры, фотаздымкі з Мінска, Раўбічаў, Дудутак, уражанні ад новых сустрэч і знаёмстваў. Гаспадары канферэнцыі зноў вярнуліся да сваёй паўсядзённай працы. Але сёння праца гэтая будзе ўсё ж у нечым новай. Лёс, будучыня нашага грамадства, нашага кантынента і ў нашых таксама руках. Мы не палітыкі, не прамысловыя магнаты, але будучыня ж не толькі ў палітычным ладзе ці матэрыяльным забеспячэнні. Будучыня наша павінна багацець не толькі сродкамі матэрыяльнага спажывання, але і культурнай спадчынай продкаў. Толькі такая спадчына можа стаць асновай для фарміравання чалавека трэцяга тысячагоддзя. І цяпер, і праз тысячу гадоў у кожнага чалавека, у кожнага народа павінна быць свая Радзіма, свая мова, свая культура. Усе высокацывілізаваныя грамадствы "асуджаны" на суседскае ўзаемаіснаванне, і важным аспектам гэтага суседства павінны стаць узаемапавага, узаемаразуменне, узаемацікавасць.

Пацвярджэннем гэтай думкі могуць стаць словы рэктара Беларускага інстытута праблем культуры, аднаго з навуковых кіраўнікоў канферэнцыі, прафесара Уладзіміра Скараходава: "Мы на парозе XXI стагоддзя, і ўжо адчуваецца, што яно будзе яшчэ пакручасцей ад веку цяперашняга. Ды ўсё ж у бясконцым пазнанні свету людскі розум здольны, абапіраючыся на навуку, акрэсліць сапраўднае прызначэнне культуры ў будучыні. І неўзабаве прыйдзе той час, калі чалавецтвам будзе ўсвядомлена яе веліч і мудрасць".

**Валянціна ТРАМБІЦКАЯ.**



**У Крычаве ў пачатку восені адбыўся міжнародны фестываль фальклору. Сюды прыехалі самадзейныя выканаўцы частушак, народных песень і танцаў з гарадоў Хіславічы Смаленскай вобласці і Трубчэўск Бранскай вобласці.**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

# ЗАХАВАЛЬНІЦА ПАМЯЦІ БЕЛАРУСІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Юбілейныя ўрачыстасці пачаліся з адкрыцця 22 кастрычніка вельмі цікавай выставы "Памяць Беларусі. Нацыянальныя каштоўнасці з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі", якую арганізаваў аддзел рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў на чале з вядомым і выдатным знаўцам старадрукаў Т. Рошчынай — загадчыцай аддзела. Чытачы ўпершыню ўбачылі рукапісныя кнігі XV—XVIII стагоддзяў на заходнееўрапейскіх і ўсходніх мовах — санскрыце, іўрыце ("Тора", "Пяцікніжжа Майсея", XVIII ст.); арабскай, персідскай ("Бяседа закаханых". XVI стагоддзе), на славянскіх, у тым ліку беларускага паходжання: евангелле "Новогородка Литовского" другой паловы XVI стагоддзя, напісанае царкоўнаславянскай мовай; перакладзены ў канцы XV — пачатку XVI стагоддзяў на старажытнабеларускую мову сярэдневяковы твор "Тайная тайных, або Арыстоцелевы врата"; "Жыціе Грыгорыя архіепіскапа Амірыцкага" і інш.; спеўныя рукапісы крукавай і лінейнай натацыі першай паловы XVII і другой паловы XVIII стагоддзяў і г. д.

І хоць рукапісныя кнігі пісаліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі на мяжы X—XI стагоддзяў у такіх цэнтрах старажытнай беларускай культуры, як Полацк, Тураў, Друцк, Пінск і інш., у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі іх няма. Рукапісная кніжная спадчына Беларусі XI—XV стагоддзяў намі страчана.

Узнікненне кнігадрукавання ў Еўропе звязана з дзейнасцю Іагана Гутэнберга і датуецца 40-мі гадамі XV стагоддзя. Вядома, што да канца XV стагоддзя ў Еўропе ўжо дзейнічалі сотні друкарняў, якія выдалі за гэты час некалькі мільёнаў паасобнікаў, што цяпер называюць інкунабуламі. Іх у Нацыянальнай бібліятэцы захоўваецца 44 паасобнікі, сярод якіх на выставе чытачы ўбачылі шэдэўр друкарскага майстэрства "Сусветную хроніку" Х. Шэдэля (1493 год, Нюрнберг, з 1 806 цудоўнымі гравюрамі) і "Гісторыю Апалонія караля Цірскага" (1470 год, якіх захавалася ў свеце ўсяго 12 паасобнікаў) — гэта самая старая друкаваная кніга ў НББ. Амаль з 200 палеатыпаў (так называюць кнігі, выдадзеныя з 1501 па 1600 год) на выставе можна было ўбачыць набытыя бібліятэкай у 1925 годзе 10 выпускаў (з 23) Пражскай Бібліі Ф. Скарыны (у 6-ці пераплётах). На жаль, толькі такой малой калекцыяй кніг нашага першадрукара валодае Беларусь. Не маем мы і першай яго кнігі "Псалтыр", выдадзенай у Празе 6 жніўня 1517 года, і ніводнай кнігі Ф. Скарыны з выдадзеных ім у Вільні. Дарэчы будзе прыгадаць, што Дзяржаўны гістарычны музей Расіі мае 89 паасобнікаў кніг Ф. Скарыны.

Затое можна было ўбачыць "Псалтыр" 1576 года П. Мсціслаўца, выдадзены Мамонічамі ў Вільні, і першае выданне Астрожскай "Бібліі" (1581 год) і "Апостал" (1574 год, Львоў) Івана Фёдарава, які, як і П. Мсціславец, паходзіў з Беларусі; "Евангелле вучыцельнае" Васіля Гарабурды (каля 1580 года, Вільня, друкарня братоў Мамонічаў), асобныя кнігі з Магілёўскай друкарні Вашчанкаў.

Паколькі ў XVI—XVIII стагоддзях на Беларусі выдаваліся кнігі не толькі кірылічнымі літарамі на старажытнацаркоўнай і старажытнабеларускай мовах, але і лацінскімі на польскай, лацінскай і іншых мовах у гарадах Брэст, Нясвіж, Лоск, Любча, Полацк, Супрасль, Слонім, Ашмяны, Браслаў, Вільня і інш., то НББ мае калекцыю такіх кніг, з якой на выставе можна было ўбачыць тры унікальныя выданні Брэсцкай друкарні (1550—1570 гадоў) — першай на тэрыторыі сучаснай Беларусі, выдадзеныя на польскай і лацінскай мовах: "Slowy i sprawy Iesusa Krystosa"; "Wthore ksiegi Lukasa Swietego" (1566 год), а таксама унікальны і знакаміты "Rosarium et officium" з медзярытамі беларускага мастака А. Тарасевіча (Вільня, 1678—1679); драматычныя творы — 16 п'ес Урсулы Радзівіл, выдадзеныя ў Жоўкве (1754, Украіна), дзе таксама была рэзідэнцыя Радзівілаў. П'есы ставіліся ў іх Нясвіжскім тэатры.

У асобных раздзелах можна было ўбачыць вучэбныя кнігі "Словарь юридический" Ф. Ланганса (Полоцк, 1791 год), "Лексікон славенскі", 10 рускіх выданняў пятроўскіх часоў, у тым ліку кнігу Віньолы "Правила о пяти чинах архитектуры" (1722 год). Вялікую каштоўнасць для даследчыкаў гісторыі Беларусі маюць выстаўленыя "Хронікі" М. Стрыйкоўскага (1582), А. Гваньіні (1611), М. Кромера (1568).

Беларуская кніга XIX — пачатку XX стагоддзяў была прадстаўлена першымі і прыжыццёвымі выданнямі Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, асобнымі нумарамі першай нелегальнай газеты "Мужыцкая праўда", што выдавалася К. Каліноўскім, пазнейшымі — "Нашай доляй" і "Нашай нівай".

Асобна прадстаўлены выданні з аўтографамі вядомых вучоных, пісьменнікаў, мастакоў. Гэта дароўныя надпісы М. Багдановіча, Ц. Гартнага, Цёткі, А. Сапунова, М. Шагала, М. Гогаля, Сальватора Далі, Эміля Заля і інш.

Сярод бібліяфільскіх выданняў вылучаецца кніга "Метамарфозы" Авідзія (1931) з афортамі П. Пікасо і з яго подпісам — адна з найвыдатнейшых работ мастака як ілюстратара.

Мастацтва пераплёту паказваецца ва ўсіх раздзелах выставы. Беларускі, рускі, заходнееўрапейскі, усходні пераплёты адрозніваюцца матэрыялам, стылем афармлення, прафесійным узроўнем выканання. Узорам практычна недаследаванага пераплётнага мастацтва Беларусі з'яўляецца адзіны ў калекцыі пераплёт з выціснутым месцам і годам стварэння: w Slucku roku MDCCXLII (1742). Побач — Евангеллі ў сярэбраных аправах. Асобнае месца займаюць вытанчаныя уладальніцкія (бібліяфільскія) пераплёты канца XIX — пачатку XX стагоддзяў — з цісненнем, дублюрай, залатым абрэзам, металічнымі накладкамі.

Выставу можна было агледзець толькі на працягу дзевяці дзён. Працягваліся юбілейныя святкаванні на Міжнароднай канферэнцыі, якая праходзіла ў Рэспубліканскім культурна-асветніцкім цэнтры Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

У канферэнцыі прынялі ўдзел госці з Расіі, ЗША, Літвы, Казахстана. Выступаючыя з былых рэспублік СССР адзначалі паўсюднае скарачэнне колькасці бібліятэк, толькі пяцідзесяціпрацэнтнае запаўненне штатных адзінак у дзеючых бібліятэках з-за нізкай заработнай платы; адсутнасць у бібліятэках з 1992 года былых абавязковых экземпляраў кніг, часопісаў і газет, выдадзеных на тэрыторыі былога СССР; высокія мытныя тарыфы за перасылку літаратуры па абмену; праблемы ў захаванні і бяспецы дакументальных помнікаў у бібліятэчных фондах з-за недахопу плошчаў і абсталявання для падтрымання неабходных умоў захоўвання кніг, рукапісаў і г. д.

Галоўны каардынатар Бібліятэчнай Асамблеі Еўразіі кандыдат педагагічных навук, намеснік дырэктара Расійскай дзяржбібліятэкі Н. Ігумнава ў сваім дакладзе "Бібліятэчная Асамблея Еўразіі: вынікі дзейнасці за пяць год" адзначыла, што ў яе ўступілі дзяржаўныя бібліятэкі ўсіх былых рэспублік СССР, у тым ліку і нацыянальныя бібліятэкі Прыбалтыкі. Н. Ігумнава прыгадала, што мэта Асамблеі — развіццё міжнародных кантактаў у гэтай справе, абмен вопытам, павышэнне прафесійнай адукацыі кадраў (абменныя стажыроўкі), дыялогі па культурна-асветнай дзейнасці, здзяйсненне ідэі культурнай інтэграцыі. Яна ж паведаміла, што, улічыўшы ўзнікшыя пасля 1992 года праблемы, сябры Асамблеі распрацавалі "Мадэльны бібліятэчны кодэкс" для краін СНД, згодна з якім будуць зноў рассылацца абавязковыя платныя экземпляры ўсіх выданняў у межах СНД; што Асамблея будзе дамагацца зацвярджэння "Палажэння аб міжбібліятэчным абмене ў краінах СНД", у якім будзе прадугледжаны льготны тарыф на перасылку абавязковых экземпляраў. Дарэчы будзе тут прыгадаць, што ў час працы гэтай канферэнцыі адбылася V сесія Бібліятэчнай Асамблеі Еўразіі, прысвечаная 75-годдзю НББ.

Цікавы быў даклад выканаўчага дырэктара Фонду інфарматызацыі Беларусі В. Дравіцы "Стварэнне навукова-інфармацыйнай сеткі і яе рэсурсаў у Рэспубліцы Беларусь". Яна паведаміла, што на базе навуковых бібліятэк Беларусі ствараецца "Зводны электронны міжбібліятэчны каталог тыпавой бібліятэчнай сістэмы магнітааптычных носьбітаў інфармацыі" з мэтай доступу да міжнародных інфармацыйных рэсурсаў. Праграма развіцця гэтага каталога абмяркоўвалася ў 1996 годзе на міжнароднай канферэнцыі. Яна ж адзначыла, што сеткавая інфраструктура ў Беларусі развіваецца марудна, бо няма пастаяннага фінансавання. І таму абласныя цэнтры бібліятэк будуць падключаны да электроннага каталога (ЗЭМК) пазней. Ужо ў першай палове 1998 года ў яго будуць падключаны бібліятэкі і ўстановы, размешчаныя ўздоўж праспекта Ф. Скарыны ў Мінску праз нацбелтэлекамунікацыі і праз спадарожнік. Пры гэтым распрацоўваюцца традыцыйныя каталожныя карткі на аснове міжнародных фарматаў. Інфармацыйныя базы даных музеяў, архіваў, фальклорных цэнтраў будуць далучаны пазней, як і Банк даных па ўсёй культурнай спадчыне.

Удзельнікі канферэнцыі на другі дзень працавалі ў пяці секцыях. Мяне цікавіла секцыя "Гістарычныя кнігазборы. Кнігазборы Радзівілаў". Цікавымі былі ўсе даклады, але асабліва хочацца адзначыць даклады Т. Рошчынай "Бібліяграфічная рэканструкцыя гістарычных беларускіх кнігазбораў", доктара Зоі Ярашэвіч-Пераслаўцаў "Кнігазборы Радзівілаў. Гісторыя пытання ў Польшчы", доктара гістарычных навук М. Нікалаева "Бібліятэчныя зборы Радзівілаў-Сапегаў: спроба параўнальнай характарыстыкі", доктара Юозаса Тумяліса "Да гісторыі радзівілаўскіх збораў. Бібліятэка Багуслава Радзівіла", В. Пуцко "Старажытныя славянскія рукапісы ў бібліятэках Беларусі" і іншыя.

З прачытаных дакладаў высветлілася, што ў Беларусі толькі пачалося даследаванне яе гістарычных кнігазбораў. Напрыклад, А. Барабаш, малодшы навуковы супрацоўнік нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, паведаміла, што пакуль не даследаваная музейная калекцыя з 2 тысяч экземпляраў рукапісных кніг і старадрукаў, асноўная частка якіх паступіла сюды ў 1957 годзе з Будслаўскага кляштара бернардзінцаў. Толькі вызначаны шляхі для даследавання шматлікіх кнігазбораў Мінска, Гродна, прыватных бібліятэк беларускай шляхты і дзеячаў першай плыні беларускага Адраджэння, сабраных у пачатку XX стагоддзя, а таксама бібліятэк рэпрэсіраванай прафесуры на працягу 30—40 гадоў і г. д. Але добра, што навукоўцы-бібліяфілы сабраліся разам, высветлілі стан гэтай справы і намецілі шляхі далейшых навуковых распрацовак.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**






# ШКЛЯНЫ ЦУД



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

— Сорак гадоў таму назад, — звяртаюся да намесніка начальніка вытворча-тэхнічнага аддзела Мікалая Герасімовіча, — таксама хлопцы выдзімалі цудоўныя рэчы. Няўжо за кошт сваіх лёгкіх вымушаны ствараць дзівосны посуд і сёння? Хіба нельга неяк механізаваць гэтую работу?

— Не, — адказаў ён, — пакуль нідзе ў свеце нічога не вынайшлі.

І расказаў такую гісторыю. У старажытнасці славіліся канстанцінопальскія шкляныя вырабы. Прышэльцы з Рымскай імперыі, задумаўшы наладзіць у сябе іх вытворчасць, вывезлі з Канстанцінопаля шкловыдзімальшчыкаў і шліфавальшчыкаў. Пасялілі іх на востраве Мурана ў Венецыі, далі прывілеі, нават дазволілі людзям гэтай прафесіі жаніцца з патрыцыянкамі. Так паявілася на свеце знакамітае "венецыянскае шкло". Сакрэт яго вырабу вельмі ахоўваўся, хто яго выдаваў — нават каралі смерцю.

У беларускіх хлопцаў-шкловыдзімальшчыкаў і дзяўчат-шліфавальшчыц падобных праблем няма. Сакрэтамі яны дзеляцца ахвотна. Відаць, таму такія добрыя майстры выраслі тут, а іх вырабы славяцца ў Вялікабрытаніі, Бельгіі, Францыі, Германіі, у іншых краінах.

Гісторыя шклозавода "Нёман" не такая доўгая, як у венецыянцаў. Ён пабудаваны ў 1883 годзе. У час другой сусветнай вайны быў разбураны, адноўлены ў 1947-м. Паступова ўзводзіліся новыя карпусы, з'яўляліся прыгожыя вырабы. Прадукцыя з каляровага і некаляровага шкла стала дэкарыравацца люстранымі фарбамі, золатам, нумаровым шліфам. Вырабы з крышталю апрацоўваюцца алмазнай гранню. Колькасць шкловарных печаў павялічылася да некалькіх дзесяткаў.

Прыемна пабыць на такім прадпрыемстве. Радасна за людзей, якія ствараюць прыгажосць. Іх посуд ідзе не толькі ў продаж. Па спецыяльных заказах вырабляюцца аздобы для канферэнц-залаў, прыёмных пакояў і г. д.

Узоры прадукцыі дэманструюцца ў заводскім музеі. Такога багацця, харастваа мне не даводзілася бачыць нідзе. А каб агледзець тысячы экспанатаў, палюбавацца імі, дня не хопіць.

Прыемна, што на нашай зямлі ёсць завод, які робіць ёй гонар. Але і ў Бярозаўцы хапае праблем. Гэта і збыт прадукцыі, і недахоп грошай на зарплату. А галоўнае — экалагічная забруджанасць. Шкодных рэчываў у паветры ўтрымліваецца больш за дапушчальную норму.

— Экалагічнае становішча ў Бярозаўцы сапраўды складанае, — сказаў старшыня Гродзенскага абласнога камітэта па выкарыстанні прыродных рэсурсаў і ахове навакольнага асяроддзя П. Путро. — Мы трымаем яго на кантролі, стараемся аздаравіць абстаноўку, дапамагаем грашыма. Летась камітэт выдзеліў на будаўніцтва ачышчальных збудаванняў восемсот мільёнаў, водапраавода — пяцьсот мільёнаў рублёў.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: прахадная завода; шліфавальшчыца Тамара САВІНА; галоўны мастак Людміла МЯГКОВА; шкловыдзімальшчык Андрэй МІХАЙЛАЎ; шліфуецца ваза.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





*ДА ЮБІЛЕЮ ЯКУБА НАРКЕВІЧА-ЁДКІ*

# ВЯРТАННЕ ІМЯ

На канец гэтага года — 27 снежня — прыпадае 150-годдзе з дня нараджэння выдатнага беларускага вучонага і ўрача, вынаходца і філантропа Якуба Наркевіча-Ёдкі.

З гэтай нагоды раённыя ўлады Уздзеншчыны ладзяць у сябе міжнародную навуковую канферэнцыю "Якуб Наркевіч-Ёдка: вяртанне імя", якая мае адбыцца ў гарадскім пасёлку Узда 12 снежня гэтага года. Мяркуецца ўдзел у ёй навукоўцаў і нашчадкаў вучонага як з блізкага, так і з далёкага замежжа, а таксама шырокага кола прадстаўнікоў грамадскасці, даследчыкаў, краязнаўцаў.

Зараз выйшаў з друку прысвечаны вучонаму пяты нумар часопіса "Беларуская мінуўшчына". Пра складаны шлях самасцвярджэння нашага даследчыка расказваецца ў падрыхтаванай да канферэнцыі брашуры "Парадоксы "электрычнага чалавека".

Матэрыялы канферэнцыі падсумуюць вынікі першага, 25-гадовага, этапа адраджэння імя выдатнага суайчынніка і вызначаць шляхі і накірункі далейшага паглыблення ў сутнасць яго навуковай спадчыны. Асэнсаванне асобы навукоўца зараз скіравана яшчэ і на выяўленне яе як выдатнай культурнай з'явы Міншчыны канца мінулага — пачатку бягучага стагоддзяў.

**Уладзімір КІСЯЛЁЎ.**

**Мікола АЛТУХОЎ**

### БЕЗ ПТУШАК

**Птушкі, сонечныя гарэзы,**
**Пакідаюць свой родны край.**
**Не чутно**
**Песень іх у лесе,**
**І прыціх пажаўцелы гай.**

**Залаціцца краса лясная,**
**Фарбаў розных паўсюль стае.**
**Птушкі восенню не спяваюць,**
**А за іх**
**Лес шуміць, пяе.**

### ЛІСА

**Здаецца, халоднае сонца,**
**Сцюдзёныя росы гараць,**
**Але, нібы тыя чырвонцы,**
**Лісты на зямлі зіхацяць.**

**На золку, ружовым і чыстым,**
**Калі расцвітае раса,**
**Ярчэй за асеннее лісце**
**Ля дрэў залаціцца ліса.**

**А сойка, пляткарка лясная,**
**Над гордай лісою пяе,**
**Што золата ў лесе хапае**
**Без яркага ўбрання яе.**

### КРЫНІЧКА

**Лясы у залатым убранні,**
**Не дрэвы, а проста цуд,**
**А птушкі сцюдзёным ранкам**
**Пакінулі родны кут.**

**Палаюць асіны, дзічкі,**
**Дуб факелам зіхаціць,**
**А восеньская крынічка**
**Булькоча, пяе, звініць.**

**У росах трава лясная,**
**І ў ранішнія часы**
**Крынічка прыпамінае**
**Птушыныя галасы.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей;**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і надрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1612. Падпісана да друку 17.11.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**